
Залукі 500+ → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Фестываль Акуджавы → 8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 31 (3142) Год LXI

Беласток, 31 ліпеня 2016 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# XXVII «Басовішча»

**Завершаны ў нядзелю XXVII Фестываль музыкі маладой Беларусі «Басовішча» ў артыстычным плане аказаўся паспяховым. Сёлетнія канцэрты нейкім чынам парушылі канвенцыю фестывалю, даказваючы, што той жа фестываль мае вялікі патэнцыял і адначасова адлюстроўвае сучасную моладзь. «Басовішча» гэта прыстанішча ў прамым і ўскосным значэнні гэтага слова. Перш за ўсё для гуртоў, якім забараняецца выступаць на радзіме. Віталь Гуркоў «Басовішча» лічыць «фестывалем для індзейцаў». Таму не варта абурацца, што сёлета рускамоўны гурт стаў пераможцам конкурснай часткі. «BRUTTO» заспявала па-беларуску, але, як аказваецца, сама ідэя фестывалю некаторым яго вакалістам неўспрымальная.**



Схільнасць быць зоркай, якую абагаўляюць натоўпы падлеткаў, зразумелая ў выпадку поп-зорак, тым часам «BRUTTO» хоча звяртацца да стылістыкі блізкай выканаўцам, прафіляваным на цяжкае перажыванне самога сябе. Той гурт клапоціцца аб прыгожых рэфрэнаў і прыемныя страфы. Адметны голас вакаліста, спосаб паводзін на сцэне мае падабацца, а рок-секцыя мае добра гучаць у радыёфарматах. Але нельга чапляцца «BRUTTO» за ідэю на саміх сябе. На самой справе, каманда мае зграбныя песні, да якіх можна мець слабасць і ахвоту, каб да іх вяртацца. Не здзіўляе рашэнне арганізатараў, якія схацелі зноў запрасіць згаданы гурт у Барык. Аднак нават іх фанатаў пачынае стамляць той жа самы рэпертуар. На думку вядомага музычнага крытыка Машы Яр, канцэрты «BRUTTO», калі ўспомніць мінулагодні, амаль нічым не адрозніваліся ад сябе. Ёй, як і пэўна часткі гледачоў, не хапала індывідуальнага падыходу да спецыфічнай публікі, якую аб'ядноўваюць фестывалі «Басовішча». Фестываль, названы Машай Яр «домам», для Віталя Гуркова мае толькі прамое значэнне — Мінск, у якім нарадзіўся. Нягледзячы на супольную ідэю «Басовішча», якая ад 25 гадоў аб'ядноўвала беларусаў і прысвячалася першым іх заснавальнікам, падляшскім аўтахтонам, у яго разуменні застаецца толькі «рэзервацыяй для індзейцаў». Усё ж такі «BRUTTO» абарочваецца ў тым жа самым музычным крузе — а гэта таксама складанае мастацтва.

Фестываль адбываецца безупынна ад 1990 года. Пасля некалькіх цяжкіх гадоў, калі была пагроза, што «Басовішча» не адбудзецца, здаецца, што мерапрыемства пачынае набіраць новага вымярэння. Ладжанае студэнтамі «Басовішча» мяняецца так, як мяняюцца іхнія арганізатары. Кожнае пакаленне «басаўцаў» мае сваю канцэпцыю развіцця фестывалю. Як падкрэсліла суарганізатарка Дар'я Вапа, з аднаго боку на «Басовішча» арганізатары запрашаюць замежныя гурты, якія выступаюць на самых прэстыжных міжнародных фестывалях, з другога — звяртаюцца да яго музычных традыцый: напрыклад, шляхам арганізацыі конкурснай часткі для маладых беларускамоўных гуртоў. Сёлета журы пераможцам такога конкурсу назвала гурт «K.», які спявае па-расейску, на трасянцы, але ў сваім рэпертуары мае некалькі беларускамоўных песень. Да палемікі, якую выклікаў гэты выбар, арганізатары ставіліся са спакоем. Старшыня БАСу Ганна Пякарская не бачыць у гэтым пагрозы для галоўнай ідэі фестывалю. Складаецца ўражанне, што маладыя «басаўцы» не патрабуюць вызначаць сябе шляхам супрацьву; яны гэта робяць, выходзячы насупраць свайму свету. Прысутны на «Басовішчы», пасля васьмігадовага перапынку, Франак Вячорка, хаця сказаў, што вызначальнай на гарадоцкім фестывалю з'яўляецца мова, не адмаўляе яму місіі беларусізацыі. Той паддаюцца гурты, якія спачатку прыязджаюць сюды з рускамоўным рэпертуарам.


■ Пераможца конкурснай часткі — гурт «K.»

Як заўсёды, так і сёлета, «Басовішча» суправаджалі паказы беларускай анімацыі, тэатральныя майстар-класы, спектакль «Ксенія» Тэатра «Czrevo». Таксама на фестывалі прысутныя былі незалежныя беларускія выдавецтвы. Аднак асноўнай на «Басовішчы» з'яўляецца музыка. Тая прыцягнула сотні людзей з розных куткоў Польшчы і свету. Сёлета тыя, якія не змаглі прыехаць у Гарадок, маюць непаўторную магчымасць паглядзець відэатрансляцыю з двух дзён фестывалю. Спасылку можна знайсці на сайце Беларускага Радыё Рацыя.

Значэнне і якасці, якія прадстаўляе «Басовішча», дарма шукаць на іншых фестывалях, што сведчыць аб яго ўнікальнасці. Як падкрэслівала моладзь не толькі з Беларусі, але і Украіны, «Басовішча» надалей застаецца анклавам свабоды, апорай для альтэрнатыўнай музыкі. Арганізатары-студэнты, без выразнай спасылкі на легенду «Басовішча», не надаючы яму глыбейшага ідэалагічнага значэння, сарганізавалі б толькі мерапрыемства, якое нагадвала б больш ювеналіі, чым фестываль са шматгадовымі традыцыямі.

Сёлета развітальны канцэрт зайграў гурт «0-85». Як вядома «0-85» гэта не толькі тэлефонны код Беластока. Для фанатаў цяжкага гучання назва асацыюецца з культавым гуртом і яго лідарам Юркам Асеннікам (Сенькам), які ў Барыку выступіў ужо на другім «Басовішчы». Бо «0-85» гэта не толькі гурт, моцна ўкаранёны ў сваім асяроддзі, але адначасова ўніверсальны — хаця спявае па-беларуску, захапляе таксама тых, якія той мовы не ведаюць. Сам Сенька, бываючы на «Басовішчы» з самага пачатку, добра разумее яго ідэю. Ён, як адзіны, са сцэны ўспомніў памерлага ў выніку замаху вядомага беларускага журналіста Паўла Шарамета. Наогул, гэта вельмі добрая думка арганізатараў, каб запрасіць «0-85». Тое, што калісь было сімвалам ультрасучаснасці, уцягвае ў сентыментальнае падарожжа. Сенька з гуртом «0-85», можна сказаць, ужо пакаленням "апладнее" ўяўленне.

Вялікую дозу надзеі для будучыні фестывалю прынеслі выступы гуртоў, якія ўпісваюцца ў плынь музыкі моцна звязанай з традыцыяй «Басовішча». Канцэрты «NAVI», «Крамбамбулі» «Дзецюкоў», «Рэлікту», «Зніча» ці «0-85» сабралі перад сцэнай значна больш слухачоў, чым прадугледжвалі арганізатары. І гэта здаецца рэцэпт для будучага поспеху «Басовішча». Арганізатары хочуць ісці ў гэтым напрамку і, як падкрэсліла старшыня БАСу Ганна Пякарская, рабіць стаўку на беларускую музыку, як тую навейшую, слуханую ў асноўным маладымі людзьмі, так і (пакуль гэта магчымае) прэзентаваць дасягненні гуртоў, якія калісь у гэтым месцы дасягалі сваіх першых поспехаў. Цяперашні БАС адбудоўвае легенду «Басовішча» на аснове яго гісторыі, стварае фестываль, які спалучае пакаленні паклоннікаў беларускага рока, бо, як даказвае сёлетняе «Басовішча» — у гэтай дзялянцы ўвесь час не маем чаго саромецца.

❖ Уршуля ШУБЗДА

Фота www.racyja.com





# 22 гады без права перамен

На фоне экстрэмальных і трагічных падзей у розных краінах — Турцыі, Францыі, Арменіі з гібеллю дзясяткаў і нават соцень людзей, разнастайных расейскіх эксцэсаў, беларускія рэаліі з іх размеранасцю і млявасцю лагічна застаюцца на задворках і загуменнях навін. Ну хіба ж можна лічыць падзеяй кампанію „выбараўвырабаў", зыход якой усім загадзя добра вядомы. Некаторыя газеты і інтэрнэт-рэсурсы ўжо апублікавалі поўны спіс тых, хто стане нібыта дэпутатамі нібыта парламента. Рызыкі памыліцца ў такім прагнозе няма ніякай. Пісаць пра гэты вялы і кволы працэс — ніякага сэнсу сапраўды няма. Гэта ўсё роўна, што апісваць пасьбу кароў — усё прадказальна і ясна ад пачатку: нават калі і адаб'ецца ад статка якая-небудзь рагатая жывёліна, яе ўсё роўна знойдуць і ўрэшце загоняць у стойла хлява.

Не дзіва, што і на чарговыя ўгодкі прэзідэнцтва Аляксандра Лукашэнкі мала хто звярнуў увагу. Споўніліся ўжо 22 гады, калі гэты палітык заняў галоўнае крэсла дзяржавы. 22 гады без права перавыбараў, змен і шанцаў на нешта іншае. Пра кіраванне Першага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь публіцыстамі, аналітыкамі, палітолагамі напісаны ўжо тамы матэрыялаў. За 22 гады выраслі амаль два пакаленні, якія нічога іншага не зведалі і тым больш не бачылі. У гэтым артыкуле паспрабую толькі рэтраспектыўна правесці паралелі з нашымі суседзямі. Калі Аляксандр Рыгоравіч дарваўся да ўлады, у Расеі кіраваў Барыс Ельцын, у Польшчы — яшчэ Лех Валэнса, у Літве — Альгірдас Бразаўскас, у Латвіі — Гуніс Улманіс, ва Украіне — Леанід Краўчук.

У Польшчы Леха Валэнсу ў канцы 1995 года змяніў Аляксандр Кваснеўскі, які прабыў на пасадзе два тэрміны, праз 10 гадоў на яго месца абралі ў 2005 годзе Леха Качынскага. Гэты прэзідэнт быў бадай самым прынцыповым у дачыненні да аўтарытарных рэжымаў постсавецкіх усходніх краін і хіба найлепшым для беларусаў. Аднак, не дабыў да канца тэрміну, загінуўшы ў красавіку 2010 года ў авіякатастрофе пад Смаленскам. Наступным Польшчай кіраваў Браніслаў Камароўскі, які быў пераабраны ў 2015 годзе і на пасаду прэзідэнта заступіў Анджэй Дуда. Агулам — 5 прэзідэнтаў за разгляданы перыяд.

У Літве яшчэ савецкага наменклатурніка Бразаўскаса ў 1998 годзе змяніў беспартыйны „амерыканец" Валдас Адамкус, потым у 2003 годзе кіроўнае крэсла заняў былы лётчык-спартовец Роландас Паксас. Праз год з хвосцікам у выніку палітычнага скандалу яму быў абвешчаны імпічмент. Часова некалькі месяцаў абавязкі галавы дзяржавы выконваў Артурас Паўлаўскас, а ўжо ў ліпені 2004 года прэзідэнтам другі раз абралі Адамкуса. У 2009 годзе на пасаду заступіла Далія Грыбаўскайце, якая на чале да сёння. Такім чынам — 6 змен прэзідэнта за гэты час.

Украінскія рэаліі былі найбольш рэзананснымі. Краўчука ў лёсаносным для нас 1994 годзе змяніў Леанід Кучма, які кіраваў дзяржавай 10 з паловай года. Менавіта ў яго перыяд расквітнела буйным цветам карупцыя, якая трымаецца да гэтай пары. Асабіста для мяне сімвалам сапраўдных рэформ і перамен ва Украіне будзе той факт, калі менавіта Кучма сядзе на лаву падсудных. Пакуль да гэтага, здаецца, далёка. У выніку аранжавай рэвалюцыі і абароны выбару народа пост нумар адзін заняў Віктар Ющанка. Ён не захацеў альбо не здолеў пайсці радыкальным курсам, у выніку чаго адбыўся прамаскоўскі рэванш і на месца прэзідэнта ў 2010 годзе сеў „шапкакрад" Віктар Януковіч. Потым быў памятны Майдан 2014 года, непрацягла, некалькі месяцаў, фармальна на чале краіны стаяў Аляксандр Турчынаў, а ўрэшце прэзідэнтам абралі Пятра Парашэнку. Усяго — фактычна 4 змены вярхоўнай улады.

У Латвіі пасля Улманіса кіравалі два тэрміны Вайра Віке-Фрэйберге, па адным — Валдзіс Затлерс, Андрыс Берзіньш, цяпер Раймондс Веёніс. Агулам 4 перамены прэзідэнта.

Найбольш блізкая па духу палітычнай улады для Беларусі, канешне, Расея. У 2000 годзе гэбісцкая групоўка фактычна змусіла зысці ў адстаўку Ельцына і прэзідэнтам стаў Уладзімір Пуцін. На адну кадэнцыю яго змяніў фіктыўны Дзмітрый Мядзведзеў. Так што перамена была толькі адна.

І кожнаму цяпер зразумела, што і Лукашэнка, і Пуцін будуць кіраваць сваімі дзяржавамі пажыццёва. Перафразуючы старажытных рымлян — жыццё кароткае, прэзідэнцтва — вечнае.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Касмічны пупок



Касмалагічная тэорыя мультысусветаў мяркуе, што побач з нашым, «чалавечым» сусветам, існуюць многія і, магчыма, колькасць іншых — паралельных, нават бясконцая. Неабавязкова падобныя яны на «наш». Мяркуецца, на самой справе, што кожны з іх рэгулюецца рознымі законамі фізікі. Такім чынам, яны інакш «паскладваныя». Спрасціўшы справу, скажу, што тое што ў адным са светаў уяўляецца «пэўным», у другім можа аказацца «нявызначаным»; тое, што тут «значнае», там «не мае значэння». Тэарэтычна, гэтых сусветаў можа быць бясконцы лік. З усяго гэтага вынікае, што ўсе вядомыя і невядомыя фізічныя з'явы, якія маглі б адбыцца ў мультысусвеце, ужо адбыліся. Або абавязкова адбудуцца. «Усё ўжо было», — як сцвярджаў цар Саламон. Хай яго словы стануць трапнай спасылкай на бягучыя падзеі. Таму што я думаю не пра папулярызацыю касмалагічных тэорый, толькі пра «цяпер» і не дзе-небудзь, а «тут». Ну, а што тут? Ну, хаос. А што цяпер? Няўпэўненасць.

У Польшчы ўсе ідуць у драку ў спрэчцы аб важных ці нават больш важных праўдах. Або аб зусім няважных пытаннях. Але што важнае, а што не? Сёння гэта не зусім яснае. Але што цьмянае? Ці абставіны ваеннага перавароту ў Турцыі? Ці, мабыць, пытанне, якое з раніцы да вечара турбуе ўсіх амерыканцаў — аб тым, хто пасля Абамы: Трамп, ці Клінтан? А якая Амерыка патрэбная ў сучасным свеце? У той жа час Нямеччына перажыла шэраг цяжкіх бомбавых замахаў. Нядаўна змагалася з імі Францыя. Іх злачынцамі ў абедзвюх краінах заўсёды аказаліся ісламскія радыкалы. Маладыя, адурманеныя фундаменталісцкай рыторыкай хлопцы! Што на гэта скажуць немцы? А французы? Ці яны пытаюцца пра сваю будучыню? І якую — нямецкую, французскую, еўрапейскую? Абедзве гэтыя краіны прынялі ў апошнія гады некалькі мільёнаў бежанцаў. Большасць з іх з'яўляецца мусульманамі. І якраз мусульманін забіў з мачэтэ жанчыну. Трапіла на гэты раз на няшчасную польку. Што гэта значыць для палякаў? Што значыць для іх меншай часткі — ксенафобаў, нацыяналістаў? І што значыць для большасці? А якой большасці? Ці той кансерватыўнай, асцярожнай, якая кіруецца прынцыпам «мая хатка з краю»? Толькі што ў глабалізаваным свеце няма такіх хатак. Няма нічога з краю, усё знаходзіцца ў цэнтры. Некалькі дзён таму ў выніку выбуху забіты ў Кіеве Павел Шарамет, беларускі журналіст. Яго крытычныя матэрыялы пра ўладу прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі і канфлікт з уладамі спрычыніліся да таго, што эміграваў з краіны. Што ён значыў для беларусаў? І якой часткі беларусаў? І колькі з іх і не ведала, кім быў Шарамет? І каго сапраўды кранула яго смерць?

Выведзены з тэорыі паралельных светаў вучоны тэзіс, згодна з якім вядомы нам Сусвет не можа быць унікальным, таму тых падобных да яго было, ёсць і будзе мноства, здаецца быць вельмі павучальным. Асабліва ў кантэксце нашага дэфектнага чалавечага свету. Але свет сам па сабе такі ёсць, які ёсць. Ані дэфектны, ані недэфектны. Гэтую рысу прысвойвае яму толькі чалавек, які адчувае сябе касмічным пупком. Я не маю на ўвазе «чалавека» як катэгорыі. Я кажу пра кожнага асобнага чалавека. Незалежна ад часу, у якім прыйшлося яму жыць. Кажу і пра самога сябе, да чаго прызнаюся з неахвотай. Вось, я такі эгацэнтрычны, які пра сябе кажа толькі добра, а ніколі дрэнна — на самой справе так як кожны з сямі мільярдаў людзей, якія жывуць цяпер у гэтым свеце, не кранаўшы ўжо гэтых некалькіх мільярдаў у мінулым і, хутчэй за ўсё, дзясятак або сотак мільярдаў у будучыні. Кожны чалавек уяўляе, уяўляў і будзе ўяўляць сябе як адзіная, асаблівая, унікальная істота, перакананая ў сваёй мудрасці і цнотах. Аднак, паводле тэорыі паралельных светаў, так як і я, так і ўсе астатнія, не з'яўляемся, не былі і не будзем унікальнымі. Шкада, што гэта толькі тэорыя. На практыцы ўсе мы думаем пра ўсіх іншых, што яны не з'яўляюцца выключнымі, але мы самі — вядома ж! Такое мысленне датычыцца да ўсіх: хрысціянін, паслядоўнікаў ісламу, сяброў Паўла Шарамета, яго забойцаў, прыхільнікаў Грамадзянскай платформы або Права і справядлівасці і г. д., і да г.п. Ну, і як тут не хапаца за чужыя чубы?! Як не лупіць па лычах, не мардаваць адзін аднаго?

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Чырвона-чорная Гайнаўка

У папярэдніх фельетонах закранаў я праблему польска-ўкраінскіх адносін. Гэтым разам вяртаюся на наш беларускі панадворак згодна прымаўцы, што ад свайго не ўцячэш. А ўсё па прычыне двух матэрыялаў, апублікаваных журналісткай беластоцкай штодзёнкі Іааннай Клімовіч ад 5 і 18 ліпеня, прысвечаных падзеям на купальскай ночы ў Белавежы. Так выглядае пачатак ейнага тэксту з 18 ліпеня.

«Zadyma z „żołnierzami wyklętymi" w tle. Ciąg dalszy zatrzymań po Kupalle.

Pięć osób z zarzutami napaści na funkcjonariuszy to bilans zamieszek na Kupalle w Białowieży. Świadkowie mówią, że „patriotyczna młodzież" z Hajnówki pojechała tam specjalnie po to, by rozpędzić bawiących się Białorusinów.

Festyn Kupalle — jedna z największych imprez organizowanych przez Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne w Polsce, odpowiednik nocy świętojańskiej, z występami zespołów ludowych i puszczaniem wianków na rzece — zorganizowano w sobotę 2 lipca. Bawiło się blisko 600 osób. (...) Agresja chuliganów skupiła się jednak nie na Białorusinach, ale na zabezpieczającej imprezę policji...».

Калі я гэта прачытаў, спачатку аблаяў самога сябе словамі, якія не належаць да канону культурнасці, за тое, што абсалютна нічога не ведаю пра апісаныя падзеі. Моцныя словы пра беспарадкі на Купаллі выклікалі маю занепакоенасць. Толькі далей я дачытаўся, што гэта былі разборкі з прысутнымі там паліцыянтамі. Пэўнае здзіўленне выклікала пададзеная колькасць удзельнікаў. Усе добра ведаем, што не белавежскім Купаллі заўсёды збіраецца некалькі тысяч чалавек, а 600 асоб — гэта лічбы характэрныя для звычайных гмінных фэстаў. Можа так паліцыйныя крыніцы ацэньваюць лік прысутных перад самой сцэнай, бо рэальнасць зусім іншая. Але гэта не найважнейшае. Калі б адбыліся хваляванні ў час такога мерапрыемства, гудзела б напэўна ўся Беласточчына і Польшча. Не можна замесці такой справы пад дыван. Не заставалася мне нічога іншага, як пазваніць арганізатару Купалля, старшыні Беларускага грамадска-культурнага таварыства Янку Сычэўскаму і распытаць пра вышэйапісаныя падзеі. Цытаваныя мною словы журналісткі ён слухаў са здзіўленнем, бо нічога яму не было вядома наконт гэтай справы. Паліцыянты таксама не звярталіся да арганізатараў Купалля ў справе актаў агрэсіі ў адносінах да ўдзельнікаў святкавання. Мне крыху палягчэла, што на Купаллі ўсё ж такі не дайшло да масавых беспарадкаў, а інцыдэнт адбыўся паміж паліцыянтамі і гайнаўскімі, польскімі актывістамі. Дзве жанчыны — маці і дачка — нават былі адвезены ў паліцыйны арышт.

Затрыманыя асобы — звязаныя з правымі структурамі і штодзень вельмі моцна займаюцца ўшанаваннем, між іншым, выклятых жаўнераў на Гайнаўшчыне. У іх абароны вельмі моцна заангажавалася крайне правая «Gazeta Warszawska», а падляшскі пасол Сейма Адам Андрушкевіч звярнуўся да Міністра ўнутранных спраў з патрабаваннем высветліць паводзіны паліцыянтаў. На журналістку Іаанну Клімовіч абрынулася хваля брўднай атакі, што выглядае вельмі небяспечна. Мова нянавісці ў поўным разгары. І, як заўсёды, традыцыйным аб'ектам атакі сталі Тамаш Суліма, Юры Каліна і іншыя падляшскія журналісты. Найчасцей паўтаранымі заклікамі інтэрнаўтаў былі словы пра патрэбу «ачышчэння чырвонай Гайнаўкі» сапраўднымі польскімі патрыётамі. «Чырвонае і чорнае» супрацьстаянне, але не тое з XIX-вечнага знакамітага французскага рамана Стэндаля. Затое чырвона-чорныя колеры гэта сімвалы украінскіх нацыяналістаў.

Гайнаўка ў ходзе свайго развіцця ў міжваенны перыяд сваю вонкавую выяву выразна будавала менавіта на двухполюснасці. З аднаго боку мянушка рабочай, чырвонай Гайнаўкі, з другога — крайнія правыя сілы, якія былі ў захапленні ад чорных кашуль італьянскага фашысцкага дыктатара Мусаліні. Сарганізаваны гнеў тых баявых дружын у першую чаргу быў звернуты ў бок навакольнага, вясковага, беларускага насельніцтва, якое пастаўляла свае сельскагаспадарчыя прадукты на гайнаўскі рынак. Пабітыя яйкі, вылітае малако і смятана не былі нічым дзіўным. Так закладзеная традыцыя польскасці пертрывала ў некаторых праявах і формах па сённяшні дзень. І гэта з'яўляецца пэўнай праблемай у генеральна згодным сужыцці гайнаўскіх беларусаў і палякаў.

**Яўген ВАПА**

**Купалле ладзім у Залуках, у моцнай вёсцы з зухаватымі і таленавітымі гаспадарамі і гаспадынямі. Яны ўтрымалі сваю школу, заснаваўшы сваё грамадска-культурнае таварыства «Залукі над Супраслю». Кіруе ім Ірэна Каранкевіч, адна з сяброўак «Каліны» — аднаго з музычных калектываў, якія дзейнічаюць у вёсцы, — сказаў дырэктар Гміннага цэнтра культуры — Дома культуры імя Кастуся Каліноўскага ў Гарадку Юрка Астапчук. — І на Купалле ўсе бегаюць за папараць кветкай 500 +, таму вёсачка трымаецца і спявае «Вёсачка мая», мая чараўніца! А калі пачалася арганізацыя Купалля тут? Ну, здаецца, яшчэ за «першага Прымака». І на свята з'язджаюцца са сваёй мастацкай праграмай дзясяткі сябруючых з «Калінай» калектываў з навакольных гмін, але асновай спеўнай праграмы з'яўляюцца, перш за ўсё «Каліна», «Калінка» і іншыя гарадоцкія гурты, у якіх спяваюць усе пакаленні. Жыве Гарадоцкая гміна, калі растуць дзеці!**


Маладзіцы з «Калінкі» з Галінай Парфянюк з «Каліны»

# Залукі — шуканне кветкі 500+




У трынаццаты раз у падгарадоцкіх Залуках усе шчыра, у яркім сонцы, гулялі на свяце вады, агню, сонца і любові. Неслі вянкі, праўда, у большасці не дзеўкі, інаўгуравалі мерапрыемства спевам гімна ночы Купалы, калі ночы самыя кароткія і дні самыя доўгія ў годзе. Вядома, задума на арганізацыю імпрэзы прыйшла ў галаву «старой» „Каліне”. І так, не старэючыя цётачкі трынаццаць гадоў таму падумалі: нашто яны маюць ездзіць на „Ноч Купалы” ў далёкую Белавежу, і сваё мерапрыемства назвалі „Купальночка”. На сённяшні дзень гэта ці не адзіны такі фэст у Беластоцкім павеце. А вялі мерапрыемства прыгажуні з маладзейшай «Калінкі», з якіх маладзіцы таксама ў апошні час шчодра размножыліся:

— Гэта чароўнае свята, якое мае доўгі радавод. Кажуць, што ў ноч адбываюцца цуды праз папараць-кветку, якая ў гэтую ноч зацвітае. Хто ў гэтую ноч знойдзе папараць-кветку, можа выйграць з мільён, а то і больш, у лато, ці, найлепш, тую кветачку 500+!

— Чаму мы не мелі б святкаваць, — успамінаюць узнікненне мерапрыемства ў Залуках Пётр Сакалоўскі, Вінцук Фідзюкевіч і Янка Карповіч. — Першая была вельмі сціплая. Яшчэ калі Валька Паплаўская ў нас «жондзіла». Выдумалі, каб штось у вёсцы зрабіць, каб штось дзеялася. З Беларускім таварыствам напачатку. Яшчэ гэтай сцэны не было. Цяпер паспалітыя людзі называюць яе «залуцкі амфітэатр». У апошнія гады ўсё больш і больш наша купальночка развіваецца. А ўвечары над рэчку на вогнішча і пусканне вянкоў так шмат людзей прыходзіць, што аж мне цікава, адкуль іх так многа бярэцца. І маладых колькі! Як міла паглядзець на маладзенькую «Казку» з гарадоцкай школы, якая пачынае імпрэзу! Для нас важна, што вёска трымаецца, — кажа **Ірэна Каранкевіч**, — што школу вядзем. Вёска жыве, развіваецца. І маладыя ёсць У нас сёлета дзевяцёра дзяцей нарадзілася, а то было па адным на два гады. У некаторых бацькоў і па двое, у іншых — першае дзіця. Тое важна, што астаюцца маладыя. Здаецца, што ім тут падабаецца, як, дарэчы, і мне. Я пяцёра дзяцей нарадзіла, з чаго трое тут жывуць. Дзевяцёра ўнукаў маю, з якіх


Залучанскія буслы не спяць у шапку!

сямёра тут ходзіць у школу. Рада я. І задаволеная, што так наша вёска развіваецца! І вельмі ганаруся, што таксама я крыху спрычынілася да гэтага. Я, і ўся наша грамада. Адзін нічога не зробіш. Людзі ангажуюцца. Трэба будзе яшчэ падумаць і штосьці яшчэ выдумаць. Работы ў кожнага шмат свае, і ў мяне таксама. Я вяду хатні, малы «дом старцаў». У мяне дома. Людзі з навакольных вёсак, але звоняць і з Беластока, пытаюцца, ці ёсць месцы. Нельга мне апекавацца больш чым васьмю людзьмі. Некаторы казалі: «О, ужо-ўжо і Жэнька памрэ», а яна ўжо ў мяне шосты год жыве. З суседняй вёскі яна. Не было яе каму глядзець — дачка робіць, адзін сын забыўся, трэці п'е... А тут мае яна добры догляд, мілую кампанію...

— Зараз і твае «старцы» пабягуць шукаць папараць-кветку!

— Адзін меў прыйсці, але іншыя хто ляжыць, хто на калясцы... Я адукацыю маю сярэднюю агульную, але працавала апякункай старэйшых асоб і ў Польшчы, і за мяжой. Хата ў мяне вялікая. Не хвалюся, але мой дом мае добрую славу. «Usługi opiekuńcze», Залукі, 81. Маюць людзі ў мяне поўную апеку, з харчаваннем, доктар і медсястра, калі трэба ўзяць кроў на аналізы ці падключыць кропельніцу, прыязджаюць з Гарадка. І гуляюць — калі субота ці нядзеля, то і танцы маюць, музыка свойская, перш за ўсё даўнейшая, без перапынку гучыць у нашым доме. Спяваюць харашэнька, многа песень ведаюць. Хто дае рады, то і станцуе. Адна мая арцістка, файная бабка, яна з Міхалова, вельмі спраўна танцуе, схопіць якога хлопца... Арганізуем дні нараджэння, імяніны... Вось адна сяброўка нядаўна скончыла 92 гады. І торцік быў, і яе радзіна прыехала, і мы ўсе тут святкавалі. І танцавалі, і спявалі... Як не спяваць у Залуках! Цяпер увесь час мае падапечныя на панадворку, на свежым паветры, у цянёчку адпачываюць. Шкода, што месцаў больш не маю. Учора званілі, пыталіся ці можна прывезці пацыента, пару дзён таму таксама былі два тэлефоны. У шпіталі сацыяльная медсястра інфармуе, куды і ў чые рукі можна было б даць пад апеку чалавека, і варта каб так мог апынуцца ён у свойскім асяроддзі. З Міхалова, з Баброўнік, з Лявонавіч, з Залук.


Ірэна Каранкевіч: — У нас нарадзілася дзевяцёра дзяцей!

А як жа, паявіўся і Ірэнін падапечны, і разам з усімі ў карагодзе з вянкамі падаўся над рэчку паглядзець, як паплылі кветкі са свечкамі. І мноства было такіх, што кінуліся па дзявочыя вяночкі. Можна было спадзявацца, што зноў хтось ухопіць у лесе кветачку 500+! І я шукала, але не кветкі, а... малой дэталі ад майго фотаапарата. Ужо на прыцемках, а пасля ў ярка-сонечны ранак і да поўдня, разам з хлопчыкам, у якога ёсць тры сястрычкі. Дзве з іх, Дамініка і Марлена, бегалі па шырокай, ухвечанай залучанскай вуліцы, то да сяброўкі Юлі, то ад яе, то з сабачкам, то з коцікам Драпкам. Ужо ж канікулы. Усе яны ходзяць у залучанскую школу, дзе ад садка і ў класах I-IV усе вывучаюць беларускую мову, ці ты тутэйшы, ці прыехаў здалёк у Залукі, каб тут знайсці прытулак. Бо дзякуючы беларускай мове існуе школа ў Залуках. Праз 5-6 гадоў пойдуць у яе тыя дзевяцёра дзетак, што сёлета нарадзіліся. Дзевяцёра? Яшчэ да канца года — о-го-го! Не адна пара можа знайсці тую адмысловую кветку 500+!

А дзверы дашкольна-школьнага пункту ў Залуках ужо ў верасні адчыняць наймалодшыя: Міхал Карповіч, Маргарыта Паплаўская, Вікторыя Паплаўская, Юліяна Міхаліна Мароз, Амелія Пашкевіч, Война Пятроўскі, Віктар Чэмель, Яраслаў Дудкевіч і Леў Гаўрылышын.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

## Канцэрт з веерам колераў

23 ліпеня г.г. у прыгожым амфітэатры на беразе Семяноўскага возера ў Старым Двары Гайнаўскага павета адбыўся паўтарагадзінны канцэрт калектываў нацыянальных меншасцей Беларусі. Пачаўся ён а гадзіне 17-й. Надвор'е стаяла сонечнае, цёплае. Прыемна было пасядзець на лавачках (іх усім хапала) паблізу вялікай вады. Яна падыхала свежасцю. Па возеры плавалі лодкі.

На канцэрт сабралася немалая як на будні дзень публіка. Прыехалі жыхары некаторых вёсак Нараўчанскай гміны, між іншым, Нараўкі, Лешукоў, Міхнаўкі, Новага Ляўкова, Семяноўкі і Тарнопаля, з суседняй Міхалоўскай гміны — з Бандароў і Юшкавага Груда ды яшчэ і з Гайнаўкі.

І пачалося. На сцэну выходзілі штораз то новыя спевакі і танцоры ў прыгожых касцюмах. Беларусь — дзяржава шматнацыянальная. Тут пражываюць, між іным, украінцы, палякі, армяне, азербайджанцы, казахі, малдаване, карэлы. Таму рэдка чуліся беларускія песні. Рэдка паяўляліся артысты ў народных беларускіх касцюмах, з якімі мы ўжо звыкліся. Выступалі гурты перш за ўсё нацыянальных меншасцей Беларусі ў народных касцюмах. Захаплялі касцюмы казахаў і азербайджанцаў. Павеяла экзотыкай.



Вось быў веер колераў, калі выконваліся віхурыстыя танцы! Мелодыі мяняліся з кожным выступам самых здольных, самых таленавітых артыстаў. Вось тут можна было пачуць галасы! Можна было пачуць музыку на нябачаных намі дагэтуль інструментах. Летні канцэрт у Старым Двары — непаўторны. Чагосьці такога ў нашым старонні не было.

Варта дадаць, што перад канцэртам у Старым Двары замежныя артысты выступілі ў Варшаве і на наступны дзень — 24 ліпеня — мелі даць канцэрт у Сямятычах. Канцэрт у Старым Двары ладзілі Гмінная ўправа і Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы. Ён прайшоў вельмі паспяхова.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## Харашчанская дэмаграфія

У Харашчанскай гміне Беластоцкага павета жыхароў з кожным годам пакрысе прыбывае. У 2012 годзе было іх 13 846 чалавек, а ў 2014 годзе — 14 579. Гміна займае плошчу 164 квадратныя кіламетры. Яна налічвае 34 мясцовасці (у тым ліку 31 лічыцца салэцкай), у якіх пражывае каля 15 тысяч чалавек. Што цікава — тут жанчын і мужчын амаль па толькі сама. Шчыльнасць насельніцтва — 89 асоб на адзін квадратны кіламетр.

Найбольш населенай з'яўляецца Харошча — 5 800 чалавек. Іншыя вялікія і сярэднія вёскі (у іх пражывае ад 1 500 да 150 жыхароў) гэта Клепачы, Златорыя, Крупнікі, Парослае, Баршчэва, Жулткі, Лыскі, Панькі, Ізбішча, Парослае-Калёнія, Олішкі, Рогава, Дзікае, Канавалы, Сянкевічы, Слiўна і Зачарляны.

Малыя вёскі гэта Рагувак, Агароднікі, Яронікі, Жулткі-Калёнія, Рогава-Маёнтак і Турчын (у іх ад 80 да 20 асоб). Зніклі паселішчы Гаёўнікі-Калёнія, Чапліна-Калёнія, Зачарляны-Калёнія і Златорыя-Цагельня. У іх ужо ніхто не пражывае.

А гэта будзе важнае і для жанчын, і для мужчын. Па колькасці мужчыны пераважаюць у васямнаццаці вёсках, а жанчыны ў пятнаццаці. Пароўну адных і другіх у Рагуўку. Найбольш жанчын пражывае ў Харошчы (больш — на 120), у Баршчэве (адпаведна на 14), Лысках (на 30), Дзіках (на 9), Сянкевічах (на 17), Жултках (на 13), Слiўне (на 7), Канавалах (на 6) і ў Агародніках (на 5).

**(яц)**

# Шанц для беларускай этнафілалогіі

**Толькі 7 кандыдатаў у студэнты на 30 месцаў, патрэбных для адкрыцця беларускай этнафілалогіі, запісалася на гэтую спецыяльнасць. Гэта першая такога тыпу спецыяльнасць у Польшчы, аднак, як аказваецца, улады ўніверсітэта не хацелі даць магчымасці заіснаваць спецыяльнасці, спыняючы другі тур набору. А такі (несумненна) адбудзецца на ўсіх астатніх спецыяльнасцях, на якіх не зарэгістравалася дастатковая колькасць кандыдатаў. Таму цяжка было зразумець сутнасць такой пастановы, тым больш што, як аказваецца, мела яна быць рашэннем адной асобы — дэкана прафесара Багуслава Нававейскага.**



Адмова ад далейшай рэкрутацыі абурыла некаторых навуковых супрацоўнікаў універсітэта, у тым ліку загадчыцу кафедры беларускай філалогіі **прафесар Галіну Тварановіч**, якая яшчэ ў траўні ў інтэрв'ю для «Нівы» сказала: «У выпадку з беларускай этнафілалогіяй, мы ж таксама стукаліся ў самыя высокія дзверы і атрымалі вось пацвярджэнне, што нам будуць садзейнічаць (...) і рэктар Універсітэта таксама адгукнуўся пісьмовым пацвярджэннем, што будзе нас падтрымліваць, што нам уласна дапамагала на шляху да пацвярджэння гэтай спецыяльнасці, а той шлях быў вельмі выбоістым. Тое, што ўніверсітэцкія ўлады пайшлі насустрач беларускай меншасці, і калі з выпрацоўкі стратэгіі развіцця беларускага школьніцтва выплыла ідэя арганізацыі накірунку — спецыяльнасці беларуская этнафілалогія, вось тут мы сустрэліся з паразуменнем. Само тое, што гэтая спецыяльнасць была зацверджана напрыканцы лістапада сенатам Універсітэта ў Беластоку, гэта з'яўляецца перамогай цэлага беларускага асяроддзя».

— Пасля медыйнага закалоту, які быў выкліканы рашэннем аб закрыцці рэкрутацыі на беларускую этнафілалогію, а таксама пасля пісьмовых зваротаў да ўлад універсітэта ад шматлікіх беларускіх арганізацый, рашэнне было адменена, — сказаў «Ніве» прарэктар па дыдактычна-студэнцкіх справах прафесар Ежы Галіцкі. — Рашэнне аб спыненні набору прыняў рэктар. Яно абапіралася на рацыянальны аналіз вынікаў першага тура, калі ахвотных было толькі тры асобы. Тым не менш, дасланыя пісьмы ад беларускіх арганізацый паўплывалі на адмену рашэння рэктара і дадатковая



рэкрутацыя на этнафілалогію адбудзецца. Гэта ўжо пэўнае.

Аднак і ўлады ўніверсітэта маюць крайнія погляды наконт этнафілалогіі. Дэкан Багуслаў Нававейскі, хаця не размаўляе са СМІ аб справе этнафілалогіі, пагадзіўся на кароткую размову з «Нівай», у якой зазначыў, што вось прынялі рашэнне аб закрыцці рэкрутацыі.

— Няма сэнсу рабіць другога тура набору, калі ўжо пры першым было так мала ахвотных, — сказаў, не хаваючы раздражненасці, дэкан. — Нават, калі было б 14 ахвотных, вядома па жыцці, што частка «адпадзе». Універсітэт не будзе адкрываць спецыяльнасці, на якой вучыцца менш асоб, чым працуе выкладчыкаў на кафедры. Не будзе чаргавага набору — гэта канчатковае рашэнне!

Не здзіўляе выказванне прафесар Галіны Тварановіч для «Газеты выбарчай», у якім гаворыць аб непрыхільнасці рэктара да беларусістыкі. Сведчыць аб гэтым факт, што паміж размовамі «Нівы» з прарэктарам і дэканам не мінула больш чым паўгадзіны. Прафесар Нававейскі хацеў самастойна вырашыць аб будучыні спецыяльнасці.

— Беларуская этнафілалогія ніякім чынам не дыскрымінуецца, — запэўніваў дэкан. — Тут вырашылі эканамічныя фактары. Такое самае рашэнне было б прынятае ў дачыненні да кожнай любой спецыяльнасці.

Праблема заключаецца ў тым, што для беларусаў этнафілалогія гэта не «кожная любая спецыяльнасць», толькі важны фактар, які паўплываў бы на развіццё навуковых даследаванняў і будучыню беларускай мовы на Падляшшы.

Філалагічныя напрамкі не карыстаюцца сёння папулярнасцю сярод студэнтаў. Дрэнная сітуацыя з беларускай мовай у Рэспубліцы Беларусь змяншае зацікаўленне і запатрабаванне на спецыялістаў у гэтай галіне ў самой Беларусі.

Для прыкладу, у Брэсцкім дзяржаўным універсітэце імя Аляксандра Пушкіна на спецыяльнасць беларуская філалогія паступіла 18 чалавек. Падобная сітуацыя і ў Гродзенскім універсітэце, дзе толькі 15 асобаў, выбрала гэты напрамак. Улады Беластоцкага ўніверсітэта патрабуюць трыццаці чалавек, каб этнафілалогія магла існаваць. Хаця прарэктар Галіцкі запэўніве, што нават пры меншай колькасці кандыдатаў тая спецыяльнасць была б адкрыта. Даволі цяжка паверыць у такія словы, калі згадаць сітуацыю з 2012 года. Тады на беларускую філалогію хацела паступіць 18 асоб і, нягледзячы на гэта, не было дазволу на існаванне спецыяльнасці.

— Тое рашэнне вынікала з эканоміі. Тады ўніверсітэт быў у складанай фінансавай сітуацыі, — тлумачыў прарэктар. — Сёння гэта выглядае лепш і абнадзейвае, што нават пры такой колькасці асоб беларуская этнафілалогія пачне першы год свайго існавання на нашым універсітэце.

Застаецца толькі спадзявацца, што чарговы тур рэкрутацыі на беларускую этнафілалогію назбірае большую колькасць ахвотных, чым пры першым туры. Прарэктар на сёння дае шанц беларускай этнафілалогіі. Цікава ці ўдасца яго выкарыстаць?

**Уршуля ШУБЗДА**

# Нетупскае кола фартуны

**У старым млыне ў Нетупе сустрэцца можна, мабыць, толькі з духамі колішніх млынароў. Месца гэтаму даволі спрыяльнае, магічнае. На скрыжаванні дарог — некалькі згнілых, пакрытых рэшткамі гонтаў дошак вызірае з-пад вільготных альшынавых галін.**


Анатоль Кірмуць

**Анатоль Кірмуць** з Крушынян, 1930 года нараджэння, яшчэ ў маленстве марыў, каб увайсці ўсярэдзіну, падгледзець млынарскую справу, запруду, гулкае сэрца млына. Мара збылася. Ездзіў туды разам з бацькам, канём, на засыпаным збожжам возе. Яшчэ і цяпер кожны раз, праязджаючы побач знішчанага будынка, згадвае яго першага ўласніка і будаўніка — жыда Сэндлера. Прыгожы мужчына быў, мілы, прыемны. Хаця багаты, меў толькі адну дачку — цудоўную дзяўчынку з цудоўным іменем Хана. Пачаткова млынар клікаў Толіка для кампаніі адзінокай дачцэ, потым сама ўжо да яго выбягала. Млынар і яго дачка гаварылі з Толікам па-польску альбо па-просту. Толік разумеў польскую мову, паспеў вывучыць яе ў школе. Драўляная хата Сэндлера стаяла побач з млынам. Дзякуючы млыну, як адзіны ў наваколлі, меў ён электрычнасць. (У суседніх Кундзічах электраэнергію давялі ажно ў 1974 годзе). Ад часу да часу млынар даваў Толіку некалькі грошаў. Толік любіў Сэндлера, але яшчэ больш любіў яго грошы. Пайшоў аднойчы ў крушынянскую краму, якая стаяла ў мураванцы насупраць мячэці. Дзеткі купляюць цукеркі, а ён глядзіць на сэндлеровыя грошы і думае: цукеркі з'ем, а грошай не будзе. Так і вярнуўся дахаты без цукеркаў, але з грашыма.

Млынавае кола ніколі не спынялася — ні днём, ні ноччу. Ехалі туды нават з Мастаўлян. Вады было столькі, што на прызімку драўляныя масты разносіла і плыла ажно ў неіснуючыя сёння памежныя Ямашы. Млынару плацілі мукой, таму што грошай амаль не было. На цану ніхто не наракаў.

Прыйшла вайна. Жыдоў адасалі ў канцлагеры, у печы крэматорыяў. Толік ехаў з бацькам да цёткі, якая выйшла замуж у Крынкі. Надта здзівіўся, убачыўшы вялікія драўляныя платы вышынёй за дахі пустуючых ужо жыдоўскіх хат. Па вуліцах хадзілі сумныя людзі з нашытай на вопратцы літарай «П». Палякі былі чарговымі на спіску ў тыя ж печы. Але Сэндлер разам з жонкай і дачкой праўдападобна ўцёк ад смерці, так як і іншыя багатыя крынскія жыды.

— Гэта было ўжо пры саветах. Малады, з Коматаўцаў, муку выбіраў. Чаго ён залез пад прывадны пас? Млынавы камень сапраўды вялікі, яго сіла бязмежная. Захапіў хлапчука гэты пас. Лупіла зверху ўніз, знізу ўверх, кроў пырскала па сценах. Не было чаго збіраць.

Карпінскі — кундзіцкі бядняк — набыў гэты млын пасля вайны. Не ведаў, што з грашыма рабіць. Гэта ж быў адзіны млын у цэлым наваколлі. Пабудаваў сабе вялікую драўляную хату, якая стаіць там і сёння. Наняў памочнікаў з Кундзіч і Белагорцаў, якім гаспадары везлі гарэлку, каб лепш зерне пытлявалі.

Млын спыніўся пасля меліярацыі. Не хапала вады на млынавае кола. А і Карпінскага дабрабыт з'еў. У добрых часах на кані ў крушынянскую «Залатую арду» заязджаў на чарачку.

**Рыгору Бяганскаму**, ураджэнцу Ласінян, даваенная гісторыя нетупскага млына невядомая. Тады ласіняне малолі муку ў нашмат бліжэйшай ім Галынцы (цяпер у Рэспубліцы Беларусь). Вялікае возера пад нетупскім млыном помніць ён з пасляваеннага перыяду. Крушынянскія дзяўчаты хадзілі туды па шыракалістыя панны, па-ласінянску званыя булаўкамі. Сярэдзіну з'ядалі, а лісцем падсцілалі хлеб у печы. Па Ласінянах кружыла легенда, што Сэндлер аддаў млын Карпінскаму ўзамен за ўкрыванне яго сям'і ў час нямецкай акупацыі. У нетупскі млын спадар Рыгор пачаў вазіць зерне пасля 1948 года, калі вёска апынулася ў межах Польшчы. Фурманак было столькі, што і па два дні чаргавалі. Млын адзін, а вёсак шмат. Нават з Коматаўцаў і Скраблякоў з самой раніцы з'язджаліся. Заснуць уначы было немагчыма. Занадта гучна млын гудзеў. Панцак рабілі, крупы, пытлявалі, на хлеб малолі. За паслугу плацілі мукой на распыл і грашыма. У пяцідзясятых гадах ездзілі ўжо ў Крынкі і ў новы млын у Гарадок. Там не было чэргаў, лепш пытлявалі, прытым атрымлівалася больш белага хлеба. І не трэба было мяшкоў на гару млына цягаць. Хапала ўнізе падчапіць, пад спецыяльныя рукавы.


Млын

**Раман Яновіч** з вуліцы Царкоўнай у Крынках, далёкі сваяк млынара Карпінскага. Прозвішча першага ўласніка нетупскага млына яму невядомае.

— Здаецца Хаймэля ці Хаймеля яго называлі. Але пасля вайны млын знаходзіўся ў руках супольнасці вёскі Кундзічы. Ён і цяпер у гэтай супольнасці. Млын Карпінскага спыніўся ў пяцідзясятых гадах. Мясцовыя не дазволілі. Не пагаджаліся пасля праведзенай меліярацыі на неабходнае для працы млына павышэнне ўзроўню вады. Муку пачалі малоць у двух электрычных млынах у Крынках.

— Не было калісь гэтага лесу. Адны пяскі і возера з вялікімі шчупакамі. Рукамі шчупакоў лавілі, — успамінаюць колішняе наваколле млына найстарэйшыя жыхары Кундзіч **Эдуард Яновіч,** 1937 года нараджэння, і яго жонка **Марыя** з дому **Зараховіч,** 1933 года нараджэння. Марыя яшчэ ў дзяво-цтве з родных Шацілаў мяшкі ў Нетупу вазіла. Карпінскі дапамагаў пры разгрузцы. У млыне працавалі тады Юрак Кундзіч з Кундзічаў і Зелянкевіч з Белагорцаў. Часам ездзіла туды з сяброўкамі з вёскі, на тры фуры, з-за недахопу мужчынскай сілы. Бацька спадарыні Марыі памёр у 1947 годзе.

— Гэта былы жыдоўскі млын, але не ведаю як звалі жыда, — гаворыць спадарыня Марыя.

Бядняк Адольф Карпінскі, на злосць будучым цясцям, ажаніўся з іх дачкой Ганоркай Нетупскай з Кундзіч. Зараз пасля вяселля маладажоны пасяліліся ў адным пакойчыку з невялікай кухняй. Каб зарабіць на хлеб, Адольф наймаўся парабкам у навакольных гаспадароў. Зараз пасля вайны неяк даведаўся, што жыд пражыў акупацыю і прадае млын.

— А што, мала іх пеpажыло? Людзі хвалілі. За грошы рызыкавалі. Аднаму з Крынак за ўкрыванне хату ў Варшаве пабудавалі.

Карпінскі ўзяў пазыку. Усё пайшло паспяхова. Хутка разбагацеў. Пабудаваў хату, гумно, хлеў. Калі прыехаў да млына зненавідны брат Ганоркі, высыпаў яго мяшкі на зямлю і аддаў пустыя.

— Калі чалавек крыху разбагацее, зараз іграе вялікага пана, — смяецца спадарыня Марыя. — А каго там у яго тады ў гасцях не было — і ксяндзы, і дактары, і дырэктары. Баляванні закончыліся, зноў стаў дзедам. Пачаў судзіцца за бацькоўскую зямлю з уласнымі сёстрамі. Млын папаў у руіну.

Карпінскі памёр, калі Валэнсу прэзідэнтам выбралі. Яновічы якраз на прэзідэнцкія выбары адправіліся, а з выбараў проста на пахаванне.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

## Весткі з Чыжоўскай гміны

У Чыжоўскай гміне у васямнаццаці салэцтвах пражывае 2 195 жыхароў. Самымі большымі сёламі лічацца Кленікі — 404 жыхары і Чыжы — 351. Дагэтуль у Гміннны асяродак сацыяльнай дапамогі прад'яўлены 93 заявы на выплату з праграмы «Сям'я 500+» (бацькі 144 дзетак атрымалі 211 993,70 зл.).

Сёлетні гмінны бюджэт складае суму 6 535 581 зл. на баку прыбыткаў і столькі ж на баку выдаткаў. На інвестыцыйныя задачы прызначана 254 600 зл., пры чым 214 640 зл. з уласнага бюджэту і 40 000 зл. з павятовай датацыі. Бюджэт сціплы, затым Рада гміны рашыла размеркаваць грошы па-гаспадарску паводле прымаўкі «так кравец крае, як матэрыі хапае». Сёлетнія задачы тычацца ў асноўным дарожных спраў. Як выявіў у час размовы войт гміны Юры Васілюк, планаваныя задачы выкананыя. З важнейшых можна пералічыць наступныя: перабудова дарогі Кленікі — Тынкоўшчына — Сапава даўжыні 650 метраў з адначасным выкананнем абочыны ў абодвух напрамках. Кошт інвестыцыі — 109 890 зл. Выканаўца — Павятовае праўленне публічных дарог у Гайнаўцы. Перабудова павятовай дарогі (даўжыні 500 метраў) на адрэзку Лянева — Падрэчаны — Локніца. Выканаўца — Павятовае праўленне публічных дарог у Гайнаўцы. Кошт інвестыцыі — 65 000 зл. Выканана падсыпка гравійкі Сапава — Кленікі — Мякішы даўжынёй 1 100 метраў. Выканаўца — ППД у Гайнаўцы. Перабудова канала ў сяле Збуч паглынула 80 000 зл., пры чым было выдадзена 40 000 зл. з гміннага бюджэту і столькі ж з павятовай датацыі. Апрача таго быў праведзены рамонт шлюза ў вёсцы Асоўка і аўтобуснага прыпынку ў Кленіках. Закуплены быў будынак па былым пункце скупкі малака ў Гукавічах (7 950 зл.) і аўтобусны прыпынак у Чыжах (9 000 зл). Незалежна ад таго Чыжоўская гміна ўдзельнічала ў супольнай інвестыцыі з Павятовым старостам і гмінай у Бельску-Падляшскім у рэалізацыі перабудовы дарогі Ракавічы — Крывая. Кошт інвестыцыі — 75 250 зл. Выканаўца — Павятовае праўленне публічных дарог у Бельску-Падляшскім.

Па ініцыятыве солтыса сяла Лянева Уладыслава Іванюка Салэцкая рада з групай жыхароў на грамадскіх пачатках адрамантавала аўтобусны прыпынак на маршруце Кленікі — Лянева — Чыжы. За гэта атрымалі віншавальны ліст ад войта Юры Васілюка. **(УС)**

## Па грыбы!



Зараз пасля цёплых дажджоў з'явіліся першыя ў гэтым годзе грыбы — баравікі, пліскі, бабкі, сыраежкі, падбярозавікі, падасінавікі і іншыя. Пачалося раздолле для аматараў грыбоў. Збіраючы грыбы, не вырывайце іх з карэннем, а зрэзвайце ножыкам. Тады вы зможаце, запомніўшы гэтае месца, знайсці тут новыя маладыя грыбы, якія вырастуць на змену зрэзаным.

На здымку вядомы грыбнік з Новага Ляўкова Нараўчанскай гміны з баравіком у руцэ. Ён у мешаных лясах назбіраў і шмат жоўценькіх пліскаў-лісічак ды краснюкоў (назва ад шапачак чырвонага, краснага колеру).

Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

зорка
для дзяцей і моладзі



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl


Тамара Кандрацюк-Бро на поўначы Канады

фота з архіва Ганны Кандрацюк

# «БЕЛАВЕЖА» — дачка «Нівы»

Літаратура «белавежцаў» вядомая ў цэлым беларускім асяроддзі. Калі бліжэй прыглядзецца іх творчасці, узнікаюць пытанні: чаму ўзнікла літаратурнае аб'яднанне «Белавежа»? Як гэта ўсё пачалося?

Адказ на гэтыя пытанні мы маглі пачуць у час сутрэчы з паэтэсай Мірай Лукшай, членам літаб'яднання.

— Калі ў 1956 годзе ўзнікла «Ніва», людзі пачалі пісаць допісы і вершы, — пачала Міра Лукша. — З часам з'явіліся знакавыя дэбюты. Першы рэдактар Георгій Валкавыцкі быў аўтарытэтам па літаратуры. Ён закончыў Літаратурны інстытут імя Максіма Горкага ў Маскве. Сам пісаў вершы. Валкавыцкі прыдумаў, каб сабраць усіх творчых карэспандэнтаў у аб'яднанне і так узнікла «Белавежа».

Цяперашнім старшынёй «Белавежы» з'яўляецца прафесар Ян Чыквін. Беларускі літаратурны круг папаўняюць новыя аўтары, як Кацярына Сянкевіч, студэнтка мастацтва, ураджэнка Нарвы.

У яе два зборнікі: «Дачка ружы» і «Гарбата з незабудак».

**Наталля Васько, «Зорны шлях»**

# Падляшанка
## сярод канадскіх інуітаў

У перадапошні дзень Сустрэч мы правялі гутарку са спадарыняй Асяй Кандрацюк-Бро, падляшскай настаўніцай з Канады. Яна нам расказала пра жыццё інуітаў на поўначы Канады. Мы даведаліся многа цікавых рэчаў, напрыклад, што не трэба мець правоў, каб сядзець за рулём, кожны можа гэта рабіць, нават дзеці. Можа нам здавацца дзіўным тое, што хлопцы часта ўцякаюць з урокаў, каб пайсці са старэйшымі мужчынамі на паляванне. Калі хто з іх нешта ўпалюе, той лічыцца сапраўдным мужчынам! Калі дрэннае надвор'е, снежны ўраган ці на двары больш за 40 градусаў марозу, замыкаюцца школы. Тады людзі стараюцца не выходзіць з хаты некалькі дзён.

Інуіты не любяць калі іх называюць «эскімосамі», гэтае для іх зняважа. Правільна трэба казаць «інуіт». Гэта на іх мове значыць «праўдзівы чалавек».

Сустрэча з настаўніцай была вельмі цікавай. Яна прыблізіла нам іншую культуру і падказала, што людзі з Падляшша ўмеюць знайсці сабе месца ў чужой краіне, і нават у цяжкіх, экзатычных умовах.

**Уля Марчук, «Зорны шлях»**


Оля Зінкевіч і Оля Яроцкая

**Оля Зінкевіч, Парнасік**

* * *

Калі гэта праўда?
Што мы тады зробім?
Наш свет перавернецца,
а мы разам з ім.

Гэта немагчыма,
каб так здарылася.
Гэта шок,
каб так атрымалася

# УВАГА КОНКУРС! № 30-31-16

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 7 жніўня 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Бліснула,
Зламалася,
Дзесьці ўміг схавалася,
Ні дагнаць,
Ні след пазнаць —
Толькі водгулле чуваць.
М......

(Ніл Гілевіч)

**Адказ на загадку № 26-27-16: месяц. Узнагароду, фламастары, выйграла Вікторыя Гаць з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Я думаю па беларуску!

Размова з **Эвай Іванюк**, сяброўкай, якая паспрабавала сваіх сіл у пісанні вершаў і фельетонаў. Апрача таго Эва іграе на піяніна і спявае.

**«Парнасік»:** — *Эва, чаму Ты пішаш, а не, напрыклад, як многія маладыя людзі, сядзіш у інтэрнэце?*

**Эва Іванюк:** — Я пішу, бо гэта для мяне такі адпачынак ад штодзённага жыцця. Сядаю ў сваім пакоі і пішу. Інтэрнэтам таксама карыстаюся, але толькі тады, калі шукаю патрэбную мне інфармацыю. А чаму пішу? Хачу падзяліцца сваімі думкамі з іншымі.

**П.:** — *Што на гэта сябры?*

**Э.І.:** — Яны не ведаюць, што я пішу. Аб гэтым ведаюць толькі сябры з Сустрэч «Зоркі», мая настаўніца і мая сястра. Але думаю, калі б даведаліся, яны вельмі былі б задаволеныя.

**П.:** — *Якія тэмы для Цябе важныя? Пра што пішаш?*

**Э.І.:** — Найбольш люблю пісаць пра гістарычныя падзеі на Падляшшы. Напрыклад, пра бежанства.


фота Ганны Кандрацюк


мал. Оля Яроцкая

**П.:** — *Чаму Ты пішаш па-беларуску?*

**Э.І.:** — Таму, што беларуская мова мне родная, я — беларуска. А родная мова даражэйшая за ўсе іншыя. Я думаю па-беларуску.

**П.:** — *Калі прыходзіць да Цябе натхненне?*

**Э.І.:** — Найчасцей тады, калі добрая пагода, калі не баліць галава. Гэта проста так, што ў галаву прыходзіць думка, я сядаю і пішу. Часам даходжу да высновы, што тэкст дрэнны, а часам ён мне падабаецца.

**П.:** — *Мы ведаем, што Ты ездзіла на «Басовішча». Хто Цябе заахвоціў туды паехаць?*

**Э.І.:** — Я ездзіла на «Басовішча», каб паслухаць іншую музыку, чым тая, якую можна пачуць на канцэртах у Гайнаўцы ці ў Бельску. Рок-музыка і яе выканаўцы вельмі мне спадабаліся. Я не ездзіла паслухаць нейкі канкрэтны гурт, толькі хацела прыслухацца сучаснай беларускай музыцы. У мяне ў хаце не гавораць па-беларуску, таму мне хацелася яшчэ паслухаць родную мову. А з'ездзіць на «Басовішча» заахвоціла мяне сястра.

**П.:** — *Ці хочаш у жыцці звязацца з пісаннем?*

**Э.І.:** — Пакуль пісанне для мяне гэта нешта дадатковае. На пісанні нельга зарабіць вялікіх грошай. Але я пішу для прыемнасці.

**П.:** — Дзякуем за размову!

**Гутарылі Оля Зінкевіч і Оля Яроцкая**

## Вершы Віктара Шведа



### Праклёны

Сеў на лаўцы ў парку Янка
І праклінае безустанку.
Прысеў ля яго дзедка
І праклінае ён, на рэдкасць.

Яшчэ прысела тут бабуля,
Яе праклёны ўсе пачулі.
Чаму былі так знерваваныя? —
Лаўка свежа маляваная.

### Размова з маткай

— Скажы мне, Яраслаў,
Ты памятаеш хіба,
Што сусед сказаў,
Калі ты выбіў шыбу?

— Страшэнна стаў ругаць,
Сказаў слоў брыдкіх многа,
— Не мусіш паўтараць.
— Дык не сказаў нічога.

Эва Іванюк, «Зорнымі вачыма»

## Вёсачка

Калісь была жывая,
кожны дзень нешта здарылася.
А цяпер?
Што маем?
Былі людзі і ўжо няма іх,
старыя пайшлі з жыцця,
малады з'ехалі,
пакінулі свой свет,
свой родны кут.

Стаіць вёсачка, усюды сум
у зелені лясоў.
Можа калісьці нехта аб ёй падумае.

(Кулінарны куточак рэдакцыі «Парнасіка»)

## Галачкі з жоўтага сыру

— 200 г жоўтага сыру
— 4 вараныя яйкі
— 3 цыбуліны
— 0,5 слоіка маянэзу

Усё спалучыць і сфармаваць галачкі, якія трэба абсыпаць пасечанай зелянінай (зялёнай цыбуляй, пятрушкай) і змолатым чырвоным перцам.

Смачна есці!

Рэцэпт апрацавалі
Зузя Кардзюкевіч і Оля Салавянюк

## Польска-беларуская крыжаванка № 31-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 27:**

Тракт, лорд, суніцы, лес, ток, мёд, крыга. Яр, сем, усё, тры, ты, ох, летка. Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага і **Сара Скаўронская** з Беластока. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Zupa | Płeć / Stół | | Liczba | Upał | Żabka | | Naleśniki | Zabawa / Pal | |
| | | | | Park | | | | | |
| | Lipa / Iza | | | | | Bierz / Czoło | | | |
| | | Atrament / Jer | | | | | | | |
| Zebra / Marynarz | | | | | | | | | |
| | | | | | Żyto | | | | |

**Юбілейны Х Кірмаш зубра папярэдзіў гала-канцэрт III Міжнароднага фестывалю паэтычнай песні імя Булата Акуджавы «Вера, надзея, каханне», якія адбыліся 17 ліпеня ў амфітэатры і ў гарадскім парку ў Гайнаўцы. Хаця ў пачатку кірмашу ішоў дождж, то пасля неба праяснілася і гайнавяне шматлюдна прыйшлі наведаць абодва мерапрыемствы.**

# III Міжнародны фестываль імя Булата Акуджавы і Х Кірмаш зубра ў Гайнаўцы



Лаўрэатка першага месца Ізабела Шафранская і акампаніятар Павел Сакалоўскі



Арганізатары, зоркі і канкурсанты Міжнароднага фестывалю зрабілі памятны здымак каля дуба імя Булата Акуджавы (злева дырэктар фестывалю Анатоль Баравік, а ў першым радзе справа старшыня конкурснай камісіі Іаанна Равік, бургамістр Ежы Сірак і Вольга Акуджава)

Яшчэ ў пачатку кірмашу арганізатары, зоркі і некаторыя канкурсанты Міжнароднага фестывалю імя Булата Акуджавы, які з 15 па 21 ліпеня праходзіў галоўным чынам у Гайнаўцы (фестывальныя канцэрты адбыліся ў Беластоку, Саколцы, Шэпятове, Любліне і Варшаве), наведалі тое месца ў гайнаўскім парку, дзе два гады таму назад Вольга Акуджава, жонка Булата, пасадзіла дуб, а каля яго была ўстаноўлена памятная дошка.

— Плануем каля дуба Булата Акуджавы выканаць лавачку, каб ахвотныя маглі прысесці на ёй і з гітарай праспяваць песні Булата, — заявіў Анатоль Баравік, ініцыятар і галоўны арганізатар Фестывалю імя Булата Акуджавы, які ў роднай яму Гайнаўцы арганізуе міжнародны фестываль. Пасля адзін з удзельнікаў фестывалю заявіў, што паркавую дарожку, якая знаходзіцца каля дуба, можна было б назваць іменем Булата Акуджавы. Прысутны бургамістр Ежы Сірак адобрыў гэтую прапанову.

— Фестываль мы стварылі ў Гайнаўцы і ён тут застанецца. Такім чынам у краіне і замежжы адбываецца прамоцыя нашага горада, дзе я ўзрастаў і куды ахвотна вяртаюся. III Міжнародны фестываль паэтычнай песні імя Булата Акуджавы «Вера, надзея, каханне» разросся ў параўнанні з папярэднімі выпускамі. У гэтым годзе фестывальныя канцэрты мы ладзім у Падляшскім ваяводстве і па-за нашым рэгіёнам, на Замкавай плошчы ў Варшаве і ў Люблінскім замку. У будучыні я хацеў бы, каб фестывальныя канцэрты адбываліся таксама ў Вільні і іншых гарадах у замежжы, каб ядналі грамадствы розных краін вакол гуманітарных ідэй Булата Акуджавы. Адной з мэт фестывалю з'яўляецца папулярызацыя творчасці аднаго з самых вялікіх бардаў ХХ стагоддзя. Мы адмовіліся ад камерцыйных канцэртаў, хочам, каб яны былі даступнымі для як мага найшырэйшай публікі і каб падчас канцэртаў можна было прапагандаваць творчасць і ідэі Акуджавы, якія павінны яднаць нацыі па-над падзеламі, — сказаў Анатоль Баравік.

— У цяперашнім свеце рэдкасць, калі вакол нейкай ідэі людзі розных нацый гуртуюцца па-над падзеламі. Людзям патрэбнае адчуванне добразычлівасці, уменне выбачыць. Я бясконца ўдзячная арганізатарам фестывалю і вельмі рада, што фестываль, названы іменем майго мужа Булата, яднае людзей, што перамешваюцца тут мовы выканаўцаў мужавых песень, — сказала Вольга Акуджава, якая чарговы раз наведала Гайнаўку. Мяркуе яна, што гайнаўскі фестываль зараз самы вялікі фестываль арганізаваны ў гонар Булата Акуджавы.

Анатоль Баравік удакладніў, што Маскоўскі фестываль пераўтварыўся ў арганізаванне канцэртаў, а ў іншых фестывалях меншы маштаб, чым у гайнаўскага. III Міжнародны фестываль паэтычнай песні імя Булата Акуджавы «Вера, надзея, каханне» быў наладжаны ў Гайнаўцы і іншых гарадах Грамадска-культурным аб'яднаннем «Ігранне без межаў», якое ў арганізацыі мерапрыемства падтрымалі ў галоўным самаўрадавыя ўлады Падляшскага ваяводства, горада Гайнаўкі, Павятовага старацтва ў Гайнаўцы, Гайнаўскі дом культуры, улады горада Варшавы, Любліна і Галоўнае праўленне Саюза польскіх літаратараў. Патранат над фестывалям трымаюць Вольга Акуджава, маршалак Падляшскага ваяводства, Галоўнае праўленне Саюза польскіх літаратараў і прэзідэнты гарадоў Беластока і Любліна, а ў ліку медыйных патранаў ёсць беларускія медыі — Радыё «Рацыя» і тыднёвік «Ніва».

Удзельнікі фестывалю, ушанаваўшы памяць Булата Акуджавы і зрабіўшы памятны здымак каля дуба названага яго іменем, наведалі палаткі народных рукадзельнікаў і вытворцаў экалагічнага харчавання. У тым часе на сцэне амфітэатра пачыналася мастацкая частка Х Кірмашу зубра, які арганізавалі Гарадская ўправа ў Гайнаўцы і Гайнаўскі дом культуры, пад ганаровым патранатам Маршалка Падляшскага ваяводства. Перад публікай цікава запрэзентаваліся беларускія калектывы, «Ручаёк» з Белавежы, «Нараўчанкі» з Нараўчанскай гміны і «Жаваранкі» з Махнатага. Калектыў народнага танца «Перапёлка» Гайнаўскага дома культуры захапіў сабраных народнымі танцамі. Эстрадныя танцы цікава запрэзентаваў танцавальны калектыў «Капрыс» з Пружан. Публіку зацікавілі таксама хор «Рэха пушчы» ГДК, хор леснікоў з Белавежы і хор «Вербніца» з Пружан. Астатні праспяваў беларускія народныя песні, частка якіх была выканана ў суправаджэнні танцавальных кампазіцый. Спевакі з Пружан сказалі, што выступаюць перад гайнаўскай публікай чарговы раз. Ім спадабалася атмасфера Кірмашу зубра, дзе можна паглядзець вырабы з розных рэгіёнаў Польшчы. Працаўнікі дома культуры паведамілі, што вакол амфітэатра размясціліся рукадзельнікі, рамеснікі, прадаўцы харчавання, сувеніраў і іншых вырабаў — разам 130 прадаўцоў. Адно месца продажу абслугоўвала часта па некалькі чалавек. Адразу насупраць выхаду з амфітэатра размясціліся рукадзельніцы з Пружанскага раёна, у якіх можна было купіць перш за ўсё сувеніры, у тым ліку вышываныя вырабы.

— Мы прыехалі сюды паказаць нашы вырабы з Беларусі ў якасці выставы, але ахвотныя могуць іх купляць. Многія нашы вышываныя вырабы, саломапляценне ці маляваныя на шкле карціны дарагія і таму пакупнікоў на іх мала, — сказалі вядомыя ў Пружанах народныя рукадзельніцы Раіса Баюра (саломапляценне) і Марыя Кулецкая (карціны на шкле).

Падчас юбілейнага кірмашу можна было пабачыць як выконваецца славутае гайнаўскае пячэнне *марцінак*. Быў таксама конкурс на самыя лепшыя варэнікі з начынкай. Першыя месцы ў трох конкурсных катэгорыях занялі Валянціна Аксэнтовіч — за варэнікі з сырам, Веслава Катынская — за варэнікі з гусяцінай і кашай ды Агнешка Якімюк — за варэнікі з цёртай бульбай. Свае вышываныя і карункавыя вырабы прапанавалі рукадзельніцы з Плянты — Галіна Бірыцкая і Малгажата Краўчык. Зоя Майстровіч з Рудутаў прадавала сваё саломапляценне, якім наогул больш цікавяцца турысты. Калі перастаў ісці дождж, на кірмашы цэлымі сем'ямі паявіліся гайнавяне. Шпацыравалі яны паміж прылаўкамі, куплялі рукадзелле і харчаванне. Слухалі яны музыку і заходзілі ў амфітэатр, дзе гучалі перш за ўсё беларускія песні. Апошнім выканаўцам у рамках Х Кірмашу зубра быў калектыў «Арт-Пронар» з Нарвы.



Рукадзельніцы з Пружанскага раёна

Пасля на сцэну выйшлі ўдзельнікі Фестывалю Булата Акуджавы. Гала-канцэрт адкрылі дырэктар фестывалю Анатоль Баравік, Вольга Акуджава і бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак, а суправаджалі іх на сцэне віцэ-маршалак Падляшскага ваяводства і заадно ваяводскі радны Мацей Жыўна і ваяводскі радны з Гайнаўкі Уладзімір Пятрочук.

— Я рады, што на сённяшнім гала-канцэрце сабралася так многа публікі. Гэта сведчыць аб вашай зацікаўленасці творчасцю Булата Акуджавы, уражлівасці і падтрымцы для Міжнароднага фестывалю паэтычнай песні імя Булата Акуджавы «Вера, надзея, каханне», які арганізуецца ў Гайнаўцы. Многія думкі, якія ў сваіх творах прэзентаваў Булат Акуджава, актуальныя таксама цяпер, — сказаў бургамістр Ежы Сірак, афіцыйна адкрываючы гала-канцэрт.

Радасць па прычыне шматлікай публікі, якая сабралася ў амфітэатры, каб паслухаць творы Булата ў перакладзе на розныя мовы, выявіла Вольга Акуджава. Падчас гала-канцэрта доктар Павел Грабоўскі разам з маладымі валанцёрамі, так як і ў мінулым годзе, збіраў грошы на дзейнасць госпісу ў Новай Волі. У ходзе канцэрта спачатку запрэзентаваліся пераможца другога выпуску фестывалю Марта Фітоўская і пераможцы конкурснай часткі трэцяга выпуску фестывалю, а пасля спявалі фестывальныя зоркі, сярод іх замежныя барды Вольга Залеская з Мінска (Беларусь), Іржы Вондрак з Чэхіі, Іна Труфанава з Кіева (Украіна) і барды з Польшчы, а сярод іх сам Анатоль Баравік. Публіку асабліва захапіла лаўрэатка першага месца фестывалю Ізабела Шафранская і яе пявучы, моцны голас. Акампанемент на гітары састаўляў ёй Павел Сакалоўскі.

— Я вельмі люблю творы Булата Акуджавы, спяваю іх перш за ўсё на польскай мове, але таксама і ў арыгінале. Я вельмі рада перамозе на сёлетнім фестывалі. У мінулым годзе заняла я другое месца і хацелася мне перамагчы. Пасля мінулагодняга гайнаўскага поспеху я заняла першае месца ў Фестывалі студэнцкай песні ў Кракаве. Былі ў мяне яшчэ іншыя поспехі, — сказала «Ніве» Ізабела Шафранская, студэнтка Універсітэта ў Беластоку.

У конкурсных слуханнях у Гайнаўскім доме культуры прыняло ўдзел 18 выканаўцаў з Польшчы і Беларусі. Другое месца заняў дуэт Эмілія Руткоўская і Міхал Вайтусік, а на трэцім месцы апынулася Малгажата Наканечная.

— Мастацкі ўзровень сёлетніх конкурсных выступленняў быў высокі. Мяне цешыць, што на фестывалі творы Булата Акуджавы спяваюцца ў арыгінале і ў перакладзе на іншыя мовы. Тут адбываецца збліжэнне розных моў і культур. Мерапрыемства арганізуе ў палове беларус, Анатоль, — сказала «Ніве» старшыня конкурснай камісіі, польская спявачка Іаанна Равік (стоячы збоку Анатоль Баравік удакладніў, што яго бацькі выводзяцца з вёскі Тапаркі Кляшчэлеўскай гміны і ён поўнасцю беларус).

Сярод вылучаных выканаўцаў былі Юліта Ваўрашук з ГДК, выпускніца Гайнаўскага белліцэя і Аляксей Ідэльчык з Мінска (Беларусь). Астатняму спадабалася атмасфера гайнаўскага фестывалю і яго прафесійнасць, а да ўдзелу заахвоціла яго мінская бардэса і арганізатарка фестывалю Вольга Залеская.

— Публіка на ўчарашнім канцэрце ў Беластоку добра нас успрыняла. Сёння прэзентуюцца канкурсанты, выступяць вядомыя барды з творамі Булата Акуджавы, у якіх, так як і ў песнях Уладзіміра Высоцкага, глыбокі змест, — сказала Вольга Залеская, якая выступіла пасля канкурсантаў як першая з фестывальных зорак.

Усе мае суразмоўцы, канкурсанты гаварылі аб добрай атмасферы падчас конкурснай часткі фестывалю, зычлівасці з боку конкурснай камісіі і арганізатараў, былі ў захапленні ад выступлення ў гайнаўскім амфітэатры фестывальных зорак.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**




# Наўсцяж Буга




■ Надпісы на крыжах у Алендрах

Вёска Алендры аддаленая ад чыгуначнай станцыі Сямятычы каля паўтара кіламетра. Ад шашы, якая з Драгічына вядзе ў напрамку Берасця, у вёску пракладзена сціплая асфальтоўка. Недзе паўкіламетра перад вёскай дзве пары як жа розных засцерагальных аб'ектаў. Па абодвух баках дарогі бетонныя бункеры Лініі Молатава. Гэта вельмі салідныя збудаванні, якіх не хоча кранаць час. А гэта, мабыць таму, што савецкія актывісты вывозілі на белыя мядзведзі самых аператыўных мясцовых людзей. Не будзь гэтага, тыя аператыўныя людзі верагодна пасадзейнічалі б таму, каб будаваныя маскоўскай дзяржавай аб'екты не былі надта даўгавечнымі. Аднак сталася інакш, цэмент не расцярушыўся па наваколлі і будоўлі славутай Лініі Молатава значаць сённяшні ландшафт Пабужжа. Дамінавалі б нават яны, калі б іх наваколле паступова не зарастала рознымі дрэвамі. А зарастае, бо людзі кінулі земляробства і падаліся ў свет за лягчэйшым хлебам. Другую пару засцерагальных аб'ектаў складаюць бетонныя крыжы, якія прытуліліся да расходных дарог побач вечных памятак савецкай стратэгічнай думкі. Адзін крыж замаляваны карычневай фарбай, на другім захавалася кірылічнае прашэнне з мая 1914 года за зберажэнне вёскі ад усялякіх бедстваў. Крыжы таксама зарастаюць...

Пра Алендры даволі змястоўную інфармацыю падае „Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага"; спярша агульную: „Holendry v. *Olędry* (Holländer), nazwa, osad zakładanych przeważnie w nizinach nadrzecznych, obfitujących w łąki i pastwiska sprzyjające hodowli bydła i produkcyi nabiału. Nazwę tę otrzymały pierwotnie od wychodźców z Fryzyi (Holandyi), którzy w XVI w. chroniąc się przed prześladowaniem religijnem (jako menonici) osiadali chętnie w Polsce, w Żuławach początkowo, gdzie oddawano im ziemię za opłatą czynszu. Później zwano Holendrami wszelkie osady, nawet przez polską ludność zakładane na podobnych warunkach. W obrębie królestwa najwięcej H. spotykamy nad rz. Wartą w pow. konińskim i słupeckim, tudzież w nizinach nadwiślańskich. Mylnym jest wywód tej nazwy od *Hauländer* (karczownicy) podany przez znanego historyka pruskiego Wuttkego i za nim powtarzany często po polskich pracach naukowych. Wuttke chciał przez to podnieść znaczenie i rozmiary niemieckiej kolonizacyi w Polsce. Od tych osadników wzięła początek nazwa Holendernia, dawana oborom dla krów przeznaczonym". А пасля і канкрэтную пра нашу падсямятыцкую вёску: „Olędry al. *Fuerstendorf* (*Fichtendorf*), wś nad Bugiem, pow. bielski, gub. grodz., gm. Aleksandrówka. (Radziłowka) 59 dz. Osada pierwotnie niemiecka, założona na gruntach dóbr Siemiatyckich. Według podania miejscowego ks. Anna Jabłonowska w końcu XVIII w. osadziła tu Niemców. Od jej tytułu ma pochodzić nazwa pierwotna. Starsi mieszkańcy rozumieją jeszcze po niemiecku, młode pokolenie mówi po polsku; większość wyznaje religię katolicką. Najwięcej jest Szulców. Brzegi Bugu błotniste, gleba licha". Гэтая даведка была напісана каля ста трыццаці гадоў таму. Паводле яе мясцовасць спярша называлася Княжай вёскай; або Яловай... Зараз да вёскі паступова падступае альшына, з балоцістага боку, або хваіна — з боку *gleby lichej*...

У пачатку вёскі чарговы засцерагальны аб'ект: два металічныя крыжы — візантыйскі і лацінскі — а паміж імі намагільнік з чырвонай цэглы з надпісам, што там спачывае Ванда, жонка лясніча... Комплекс пастаўлены ў юбілейным, 2000 годзе.

Крышку далей, на лавачцы, прысела групка вяскоўцаў, усе з мыліцамі, траім па дзевяноста гадоў. Нядаўна ад'ехала адтуль аўтакрама, з Венграва; у наступны дзень прыедзе аўтакрама з Тарэспаля... Крышку распытваю пра вёску; пытаю, ці сапраўды пад крыжамі спачывае прах жанчыны...

Так. Было гэта ў верасні 1939 года, калі немцы наступалі ў напрамку Берасця. У Алендры заехала брычка, у якой ляснічы вёз забітую немцамі 26-гадовую жонку і двое дзетак. Уцякалі яны з захаду на ўсход. У аднаго з вяскоўцаў былі дошкі, з тых дошак збілі дамавіну і побач вясковых крыжоў пахавалі маладую нябожчыцу; у памяці вяскоўцаў захавалася толькі ейнае імя. А ляснічы, ад'язджаючы далей, зарадзіў пісталет, клянучыся, што адпомсціць забойцам. З таго часу ніякі сямейнік на магілу Ванды не з'явіўся... У 2000 годзе, калі ў канцы вёскі стаўлялі новыя крыжы, старыя перанеслі на згаданыя раней расходныя дарогі. Крыжы два, бо ў вёсцы згодна жывуць каталікі і праваслаўныя. Дзяцей у Алендрах няма, наймалодшай дзяўчыне дваццаць і яна недзе штудзіруе. Нядаўна ажаніўся адзін вясковец, дык можа нейкае дзіця паявіцца. А зараз зімуе ў Алендрах дваццаць пяць душ. Пацікавіліся людзі, куды мяне ногі нясуць, а я адказаў, што калі ўдасца, то да Драгічына.

— А я пяшком прыйшла ад Кёнігсберга, — заявіла адна з жанчын. У час вайны саветы выселілі жыхароў Алендраў у суседні Анусін...

На тапаграфічнай карце пазначана дарожка з Алендраў у Турну-Вялікую і я спытаў, ці тая дарога яшчэ прахадная; мае суразмоўцы запэўнілі мяне, што прахадная. Ну, дык я падаўся ў бок Турны-Вялікай... Толькі не надта скрупулёзна прыглядаўся я сваёй карце і даверліва сышоў са жвіроўкі ў напрамку Анусіна ды пашагаў па сенажацях; Турна відочная з Алендраў. Пасля нейкіх трохсот метраў дарога на сенажаці раставарылася. Не хацелася мне вяртацца, да таго ж было ў мяне нейкае перакананне, што калісь напэўна была такая непасрэдная дарога паміж дзвюма згаданымі вёскамі, дык і цяпер нейкая камунікацыя, хаця і зарослая балотнай расліннасцю, там павінна быць. Пабрыў я далей здагадваючыся куды ступаць...

Раптам у нейкай адлегласці перада мною раздалася чарга трывожных птушыных крыкаў. Паколькі той акустычны птушыны абстрэл працягваўся, я спыніўся і глянуў у напрамку, адкуль ён даходзіў. У пэўнай воддалі стаяла пара жураўлёў і калі я спыніўся, каб шчоўкнуць ім здымак, яны ўзвіліся ў паветра і паляцелі. Жураўлі, хаця яны вялікія, размах іх крылаў сягае двух з паловай метраў, гэта вельмі палахлівыя птушкі. І гняздуюцца яны ў абсалютна ціхіх месцах. Значыць сенажацяў паміж Алендрамі і Турнай-Вялікай даўно-даўно не наведвалі людзі, сляды апошніх прастылі і жураўлі пачуліся там бяспечна...



Што сталася, тое не адстанецца, і я, з дакорам сумлення ад трывожання далікатных птахаў, ловячы кволыя сляды даўняй дарогі, падаўся паслядоўна далей, у напрамку Турны. Прайшоў адзін бетонны масток, дайшоў да далікатнага грудочка, а адтуль дарога стала адыходзіць у бок, нават аддаляючыся ад Турны. Аднак перада мною паказалася адметная лінія расліннасці, пра якую я падумаў, што гэта след даўняй дарогі ў Турну. У казках расказваецца пра рэкі напоўненыя малаком і мёдам, а ў песнях пра рэкі напоўненыя віном... Згаданая толькі што лінія расліннасці аказалася шырокім, абгароджаным калючым дротам ровам, напоўненым вадкасцю нагадваючай суп з квяцістай капусты; быццам у нейкай казцы... І кветкі растучага там дзягілю таксама казачнай прыгажосці.

Крыху выразнейшая дарога ад мастка на незвычайным вадаёме павяла мяне ў напрамку сасновага лесу. А там — *gleba licha*, сам пясок. Але па абодвух баках даўно езджалай дарогі стаялі нізкія бетонныя слупкі з рэшткамі калючага дроту. Звычайна за высокімі слупкамі з калючым дротам знаходзяцца нейкія важныя засакрэчаныя аб'екты. А што магло быць тут?..

На вулічнай лавачцы сядзела пажылая жанчына, гадоў, як мне сказала, дзевяноста. Спытаў я пра тую дарогу, абведзеную калючым дротам. Абгарадзілі яе, дарогу, каб жывёла, якую ганялі на пашу, не ўлазіла ў збожжа.

— То на тым пяску людзі сеялі збожжа? — здзівіўся я.

— А як жа ж, сеялі.

Пытаў я таксама пра вельмі галосны гул машын, якія каціліся па беластоцка-люблінскай шашы, што ў нейкіх трохстах метрах пралягла паралельна да вёскі. Жанчына адказала, што не перашкаджае, аднак яна ўжо не надта добра чуе. Але калі ў каго далікатны слых, таму жыццё ў Турне-Вялікай можа быць так жа невыносным, як і далікатным жураўлям. Шпалера дрэваў, якія выраслі над загуменнай рэчкай Каменкай, не ў змозе спыніць пранікання вельмі галоснага транспартнага гулу, які было чуваць ужо ў палове адлегласці між Турнай і Алендрамі.

Цераз Каменку пракладзена кладка да шашы, па якой каля паўкіламетра ў Турну-Малую, якая ўжо над самой поймай Буга, хаця сама цяперашняя рака ў двухстах метрах ад вёскі. Пішу пра цяперашні Буг, бо на колішнім у XVIII стагоддзі быў порт, з якога на суднах адпраўлялі ў Гданьск збожжа з арлянскага маёнтка Яна Клеменса Браніцкага ды паташ з высяканай Лядскай пушчы. Зыгмунт Глогер так пісаў пра гэта: „Każdy możniejszy szlachcic miał własne statki (szkuty) do spławu zboża, które omłóciwszy w ciągu zimy, korzystał z głębokiej i bystrej wody na wiosnę i spławiał do Gdańska, Szczecina lub Królewca". Для прыкладу, у 1751 годзе з Турны адправілі ў Гданьск чатыры *шкуты*, а на адно такое судна можна было загрузіць да соткі тон збожжа; шмат хлеба з арлянскіх палёў пабачыла далёкі свет... Хто ведае, ці толькі з маёнтка Браніцкага грузілі ў Турне збожжа, ці не падкідала на тыя судны свайго грузу і княгіня Анна Ябланоўская — сваячка па Сапегах беластоцкага гетмана; таго збожжа, што расло на недалёкай *glebie lichej*... Магчыма, што той порт быў там, дзе цяпер застойны рукаў Буга падыходзіць пад самую вёску ў тым месцы, дзе да вуліцы падыходзіла ранейшая дарога з Сямятыч...

Дайсці з Алендраў у Драгічын мне не ўдалося, давалокся я толькі да Клекатава. У кожнай вёсцы стаяць прыдарожныя крыжы, усюды там надпісы кірыліцай, а ў Алендрах яшчэ і лацінкай...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

Новае выданне

# Сцежка лёсу Васіля Гадулькі

Сёлета ў Беластоку выйшла з друку ўнікальная кніга „Па-над сцежкай лёсу". Яна з'явілася ў бібліятэцы Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа". Выданне прыўрочана да 70-годдзя берасцейскага паэта з-пад Жабінкі Васіля Гадулькі (1946-1993).

Гэта літаратурная і жыццёвая спадчына паэта, які жыў у правінцыі і які меў вялікі талент да літаратурнай творчасці і перакладчыцкай дзейнасці. На вялікі жаль, мы часам не заўважаем творчых людзей з-за будзённасці дзён і розных клопатаў. А гэтыя людзі жывуць з намі побач, пішуць добрыя творы, мараць мець свае ўласныя кнігі, прэзентацыі, сустрэчы. Але многім сёння гэта адолець у Беларусі не пад сілу.

Пішу гэты матэрыял, а з Мінска прыходзіць сумная вестка — загінуў малады 33-гадовы паэт Ігар Кананові̌ч. Страшна ў гэта паверыць. А колькі мы за апошнія 20 гадоў страцілі маладых і таленавітых асоб? Дзясяткі! Адны па ўласным жаданні пайшлі з жыцця ад розных дэпрэсій і праблем, іншыя — памерлі ад хвароб.

Васіль Гадулька пражыў 47 гадоў. Пры жыцці ён так і не дачакаўся свайго зборніка вершаў. Ён быў сціплым чалавекам і сціпла жыў. У пачатку 1990-х гадоў паэт даслаў у мінскі часопіс кнігу сваіх вершаў і чакаў, што з'явіцца зборнічак у бібліятэчцы „Маладосці", якая тады




існавала, але зборнік так і не пабачыў свету. Рукапіс, ужо пасля смерці, адшукалі ў „Маладосці" на самым пыльным дне рэдакцыйнай шафы — яго нават ніхто і не прачытаў. А калі б тады, пры жыцці, уважліва аднесліся б да рукапісаў паэта з Берасцейшчыны, і калі б зборнік быў выдадзены — магчыма лёс Васіля Гадулькі склаўся б інакш. Тым больш, што ён ведаў некалькі моў, а на нямецкай і англійскай нават спрабаваў пісаць вершы. І краіна пачула б голас паэта, які жыў у вёсцы Федзькавічы Жабінкаўскага раёна. Але такога шчасця не адбылося. І таленавіты вясковы беларус працаваў у калгасе, штодня хадзіў на палявыя работы. Ён выкідваў гной з кароўнікаў, буртаваў буракі, вазіў і скірдаваў салому — сумленна адпрацоўваў свае „выхады". Ён жыў адзін, ён жыў сярод вяскоўцаў, якім да лямпачкі былі замежныя мовы і паэзія. Ён жыў самотна і пісаў, як сказаў Леанід Галубовіч, „самотна-сонечныя вершы". Ён пісаў пра разумную кабылу, пра ранак у лесе, пра маці і могілкі, пра чаромху і пра навальніцу. Пісаў пра тое, што бачыў, чуў, ведаў, сустракаў, пра тое, што было побач. Пісаў і... піў віно:

Чырвоным вермутам зара
Пральецца на фіранкі...
Што ж, па апошняй, і — пара...
Няхай прасохнуць шклянкі.

Беластоцкае выданне Васіля Гадулькі „Па-над сцежкай лёсу" адкрываецца аўтабіяграфіяй паэта. Сумнай аўтабіяграфіяй. Яна завяршаецца радкамі: „Рыхтаваў зборнік вершаў і баек, але надрукаваць яго не паспеў: зімой 1992 года, у страшэннай галечы і без сродкаў для існавання, незразумелы, расчараваны і пакінуты ўсімі трагічна памёр і пахаваны на могілках в. Федзькавічы Жабінкаўскага раёна". Гэта біяграфія была напісана асабістай рукой Васіля. Памыліўся паэт усяго на паўгода. Насамрэч ён памёр 15 чэрвеня 1993 года. Усё астатняе сумненню не падлягае, як піша рэдактар выдання.

Толькі пасля смерці Васіля Гадулькі, у 2004 годзе паэт і публіцыст Леанід Галубовіч сабраў і выдаў яго першую кнігу „Голас", куды ўвайшлі ўспаміны сяброў, знаёмых і калег па пяры. А таксама выбранае з яго паэтычнай спадчыны. А потым была яшчэ падборка вершаў у калектыўным зборніку „Незабыўныя галасы" (Мінск 2008). І вось, дзякуючы „Белавежы", новае выданне Васіля Гадулькі. Выданне адметнае. Сюды ўвайшлі вершы, байкі, паэма і вянок санетаў, публіцыстыка аўтара. А яшчэ — ліставанне. Пісьмы Васіля Гадулькі да гарадзенскай паэткі Галіны Самойлы. Гэта тактоўныя, шчырыя, чуллівыя і адкрытыя лісты, поўныя суму і надзеі, разважанняў і вершаў. Кожны ліст паэта Галіна Самойла каментуе. Васямнаццаты ліст да Галіны Васіль не адаслаў, ён быў знойдзены ў архіве паэта. Ён пісаў: „У мяне справы яшчэ больш пагоршыліся — на рабоце. За такую дробязь, якую плацяць, рыхтаваць становіцца зусім немагчыма...". Галіна Самойла каментуе: „Васіль не адаслаў у Гародню свой апошні ліст. Я не напісала яму ў папярэднім, што мой першы сынок, Юрачка, нарадзіўся з парокам сэрца, што ў яго часта бываюць прастуды, што рэаніматолаг настойліва раіць рабіць аперацыю, калі ён крыху падрасце. У жніўні 1991 года я паехала з ім у Кіеў, дзе ў клініцы Амосава яго прааперыравалі, пасляаперацыйны перыяд быў вельмі




У Беларусі па-ранейшаму вельмі мала фірм, якія выкарыстоўваюць у сваёй дзейнасці беларускую мову. Нічога дзіўнага ў тым няма, бо нягледзячы на намаганні часткі грамадскасці і нават крыху больш паблажлівае стаўленне да беларушчыны з боку лукашэнкаўскіх улад, колькасць людзей, здольных размаўляць па-беларуску, змяншаецца з кожным годам. Зразумела, што хірэнне беларускай мовы адбываецца з-за некарыстання ёю ў паўсядзённым жыцці большасцю насельніцтва. Але канчаткова памерці ёй не даюць самаадданыя рупліўцы, сярод якіх людзі розных прафесій і ўзростаў. Зразумела, што ёсць сярод іх і нешматлікія бізнесмены, якія ставяць сваёй мэтай не толькі зараблянне грошай, але і распаўсюд беларускай мовы. Адной з такіх фірм, якая на сваім сайце мае беларускамоўную версію, з'яўляецца навукова-вытворчая кампанія «Тэхналогія».

Калі цікаўны карыстальнік набярэ на сваім камп'ютары адрас **http://tn.by**, то перад яго вачыма адкрыецца арыгінальнае выяўленне галоўнай старонкі. Яна падзелена на дзве часткі — на большай, блакітнай месяцца назва кампаніі і яе лагатып — цмок, на меншай, сіняй — знаходзяцца выйсці на рубрыкі сайта, інфармацыя ў якіх раскрывае дзейнасць фірмы з лепшага боку. «Асноўныя кірункі дзейнасці — сувенірная прадукцыя, кнігавыдавецкая (выданне навуковай, навуковапапулярнай, даведкавай, навучальнай, вытворча-практычнай, мастацкай і рэкламнай літаратуры на мовах свету) і паліграфічная (выпуск кніг, брашур, бланкаў, візітовак, буклетаў, праспектаў, грамат), продаж вырабаў медыцынскага прызначэння і медыцынскай тэхнікі, аптовы гандаль», — распавядаецца на старонцы «Пра кампанію», якая ідзе першай у пераліку на галоўнай старонцы. Таксама там апісваецца, чаму лагатыпам кампаніі з'яўляецца цмок.

„Фірмовы знак «Тэхналогіі» створаны на аснове старадаўняй гравюры «Крылаты цмок» (з трактата беларускага навукоўца XVII стагоддзя Казіміра Семяновіча, вядомага сваімі вынаходкамі ў галіне ракетнай тэхнікі, артылерыі, піратэхнікі, адна з якіх — канструкцыя шматступеневай ракеты. Выкарыстанне гэтай гравюры «Тэхналогіяй» сімвалізуе пераемнасць традыцый нацыянальнай навукі, вытворчасці і беларускага кнігавыдання", — пішуць натхнёныя працамі Семяновіча нашы сучаснікі.

XXI стагоддзе адрозніваецца ад XVII перш за ўсё хуткасцю перадачы інфармацыі. Але па сайце «Тэхналогіі» гэтага не бачна. Так, падрубрыка «Навіны» не абнаўлялася ўжо паўтара года.

Пра выдавецкую дзейнасць фірмы распавядаецца на аднайменнай старонцы ў рубрыцы «Выдавецтва». «Мы выдалі шэраг кніг пра Беларусь на ангельскай, нямецкай і французскай мовах. Таксама паслядоўна ажыццяўляецца праграма выдання перакладаў навуковай і навучальнай літаратуры па эканоміцы, філасофіі, сацыялогіі, гісторыі, антрапалогіі з замежных моваў», — адзначаецца там. Згодна пададзенай інфармацыі, сярод партнёраў «Тэхналогіі» — беларуская міністэрствы эканомікі, адукацыі, прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя; прадстаўніцтвы ААН, ТАСІС, Інстытут імя Гётэ, амбасады ФРГ, Польшчы, ЗША і дзясяткі іншых структур.

Адным з важных накірункаў дзейнасці фірмы — пастаўкі медыцынскай тэхнікі ў Беларусь. Аб гэтым распавядаецца на старонцы «Медыцынская тэхніка». Там жа месціцца выява дазволу на медыцынскую дзейнасць, тэрмін дзейнасці якога, праўда, закончыўся яшчэ ў 2010 годзе.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

Дата з Календара

Асілак з берагоў Нёмана



## 75 гадоў з дня смерці Якуба Чэхаўскага

У самым канцы 1879 г., напярэдадні новага года, на свет у Гродне з'явіўся ўнікальны чалавек — 30 снежня нарадзіўся Якуба Чэхаўскі, спартовец-легенда, выдатны атлет і барацьбіт, чалавек неверагоднай сілы, на выступы якога прыходзілі натоўпы людзей у Вільні, Менску, Пецярбургу, Варшаве. У літаратуры яго імя і прозвішча пішуць па-рознаму — Якаў, Якуб, Якуба, Чэхаўскі, Чэхаўской. Паходзіў ён з сям'і прысяжнага паверанага, які жыў у Гродне па вуліцы Саборнай (цяперашняя вуліца Савецкая, дом № 1).

Якуб Чэхаўскі скончыў гродзенскую мужчынскую гімназію і служыў у гродзенскім гусарскім палку, дзе ўжо захапляў усіх сваімі магчымасцямі, падымаючы каня вагой 400 кілаграмаў. Характэрна, што гэты полк ні ў Гродне, ні ў яго ваколіцах не размяшчаўся, а меў такую назву ў гонар вайны 1812 года. На арэну Чэхаўскі выйшаў яшчэ ў час службы ў Варшаве ў цырку Аляксандра Чынізэлі. Выйшаў інкогніта, перамогшы тагачаснага мясцовага чэмпіёна.

Пасля службы выступаў баксёрам у тагачаснай Расеі, а затым цыркавым байцом у Персіі, Італіі, Прусіі і Аўстра-Венгрыі. Першая сенсацыя, звязаная з Якубам Чэхаўскім, датуецца 1913 годам. Тады гарадзенец выступаў у Петраградзе на цяжкаатлетычных спаборніцтвах, дзе нечакана выканаў незвычайны фокус — падняў шэсць салдат гвардзейскага палка на адной (!) руцэ і пераходзіў па коле. За гэты нумар, які рэгулярна паўтараў у сваіх выступах, ён атрымаў узнагароду — залаты пас. У тым жа 1913 г. Чэхаўскі шмат вандраваў і выступаў — у грузінскім Тыфлісе, закаспійскім краі, італьянскім Мілане, Аўстра-Венгрыі, Румыніі, Францыі. Італьянцы называлі яго „рускім Бацісціні" у гонар знакамітага атлета. Чэхаўскі пальцамі скручваў медныя манеты сольда і раздаваў як сувеніры. А сабе з Парыжа прывёз машыну маркі „Опель", пасля чаго стаў заядлым аўтамабілістам. Сябры жартавалі: „Калі аўтамабіль сапсуецца, то Якуба нясе яго дадому на руках".

Наступныя неверагодныя нумары, якія выконваў Чэхаўскі, выглядалі так: робячы „мост" атлет трымаў на сабе дзесяць (!) чалавек, або на яго грудзі накладалі памост, на які станавіўся аркестр з 30 музыкаў, ці на плечы Чэхаўскага клалі двутаўровую сталёвую бэльку і 40 чалавек, вісячы, згіналі яе да зямлі. Таксама казалі, што праз ягоныя грудзі праязджалі 3 грузавыя машыны з публікай — 20 чалавек. Ростам Чэхаўскі быў сярэдні чалавек — 1 метр 80 сантыметраў, аднак важыў 125 кілаграмаў. Ягоным дэвізам было выслоўе „Кожны чалавек можа і павінен быць моцным". Варта таксама ўзгадаць, што Чэхаўскі быў адукаваным чалавекам і акрамя фізічнай працы цікавіўся музыкай і малюнкам, а ў ягонай бібліятэцы налічвалася 2000 тамоў.

З 1918 г. гарадзенец узначальваў Усерасейскі саюз барцоў-атлетаў. У пачатку 1920 г. кіраваў фізічнай падрыхтоўкай байцоў Петраградскай ваеннай акругі. Летам 1937 г. Чэхаўскі выступаў на мінскім стадыёне „Дынама". Большая частка яго жыцця прайшла ў Пецярбургу. Там ён жыў, выступаў, працаваў пэўны час загадчыкам гральных клубаў. У Гродне бываць даводзілася надзвычай рэдка, хоць у іншых беларускіх гарадах Чэхаўскі выступаў часцей.

Памёр Якаў Чэхаўскі 31 ліпеня 1941 г. у тагачасным Ленінградзе. Перад смерцю хварэў на сэрца. Нягледзячы на ваенны час, народу на пахаванне прыйшло досыць шмат. Пахаванне адбылося на Серафімоўскіх могілках у квартале Новая Дзярэўня.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

цяжкім. Не пісала я таксама аб тым, што мой брат і муж маюць вялікія праблемы з алкаголем. З гэтай прычыны мяне мала хто разумеў, але ўсё ж у студзені 1991 года я нарадзіла другога сына. У хуткім часе „згарэлі” усе мае і бацькоўскія зберажэнні, і мне было вельмі цяжка матэрыяльна. Але сёння менавіта малодшы сын — мая апора...”.

Лёс творчых людзей на Беларусі сёння не дужа спакойны і добры. Ён няпростым быў заўсёды і ва ўсе стагоддзі, а цяпер, відаць, найцяжэйшы, найперш з матэрыяльнага і маральнага бакоў. І не ўсе гэта вытрымліваюць і не ўсім удаецца знайсці выйсце, выкарабкацца, выжыць, пераадолець час і сябе. Калі мужная і таленавітая паэтка Галіна Самойла змагла пераадолець жыццёвыя цяжкасці і праблемы, то Васіль Гадулька — не змог:

Пахіснуўся мой дух,
І абрыдла жыццё,
У якім нават двух
Родных сэрцаў зліццё
Не ратуе ад здрад,
Ад знаходак і страт,
Ад уласнай віны...

Безумоўна, Васіль Гадулька быў таленавітым ад Бога чалавекам. Вершы яго магутныя ва ўсіх адносінах. Яны не толькі „прыгожа ўспыхваюць і згараюць феерверкам асляпляльных промняў”, а яны і сэрца саграваюць, і запамінаюцца.

У першым зборніку „Голас”, укладзеным Леанідам Галубовічам, мне спадабалася згадка пра Гадульку паэта Міколы Купрэева. Яна называецца „У хаце паэта”. Невялікая згадка. Але — жывая, канкрэтная. Мікола Купрэеў прыгадвае, як першы раз зімой завітаў у хату Васіля. Пазнаёміліся. Выпілі бутэльку „чарніла”, а потым... чатыры флаконы адэкалону. Былі яшчэ там цыбуліны, цёмна-жоўтае сала, прапахлае драўлянскай старажытнасцю, і хлеб. Купрэеў убачыў яго самотныя вочы, самотны была і паэзія: „У ёй — душа ці не ўсяго гадулькаўскага пакалення — пакалення выстылага на халодных раздарожжах...”, — сказаў Мікола Купрэеў. Але самым самотным у гэтай невялікай згадцы быў апошні абзац: „Мы развіталіся з ім на заснежаным падворку. Зноў трэба было пратоптваць сабе дарогу... І я пацёху-памалу, намацваючы ў сумётах сцежку, пачаў выбірацца адтуль. А ён — застаўся...”.

Так, Васіль Гадулька назаўсёды застаўся ў роднай вёсцы, побач з маці і з бацькам. І засталася нам яго паэзія, яго радкі:

Прахапіўся. Падумаў з палёгкай:
„Дзякуй Богу, прымроіўся крык...
Ты, жыццё, мяне ў снах не палохай —
Я ж ад явы яшчэ не адвык”.

❖Сяргей ЧЫГРЫН

# Настаў грыбны час

Пасля апошніх дажджоў высыпаліся праўдзівыя грыбы — баравікі. Аматары збірання грыбоў рухнулі ў лес. Мне, заўзятаму грыбніку, душа рвецца ў лес, але ногі не слухаюць. Вымушаны я затым толькі памагаць сямейнікам у рыхтаванні запасаў на зіму. Яны прыносяць грыбы дахаты, а я сушу ў адмысловай сушылцы. Сушыльную ўстаноўку ў летняй кухні зрабіў мне прыяцель — пячнік з Кляшчэляў Іван Бадавец. На адной сетцы змяшчаецца вялікі кош грыбоў. А такіх сетак у сушылцы — чатыры. Сушаныя грыбы прэзентуюцца шыкарна, першы сорт. Са збытам перад Калядамі няма праблемы. Купцы самі прыходзяць дахаты. Грыбны сезон для мяне — задавальненне. Каб адно як найдаўжэй працягваўся.

❖Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА





# 31.07 — 06.08

**(22.03. — 20.04.)** Першая дэкада жніўня будзе неадназначнай. Многія з вас будуць схільнымі пераацэньваць уласную значнасць. Сяброўскія парады будзеш ігнараваць з уласцівай табе самаўпэўненасцю, таму вучыцца прыйдзецца на сваім горкім вопыце. Адказна выконвай свае абавязацельствы і не парушай дадзенага калісьці слова. Дарučаную працу выконвай старанна. Творча падыходзь да ўскладзеных на цябе абавязкаў.

**(21.04. — 21.05.)** Час даволі спакойны і ўтульны, калі не пачнеш прад'яўляць да жыцця павышаных патрабаванняў. Атрымлівай асалоду ад таго, што маеш. У жніўні плённы творчы перыяд. Калі выявіш інтуіцыю і натхненне, здолееш дамагчыся сур'ёзнага поспеху. Калі збіраешся ў адпачынак, будуць нечаканыя, але вельмі прыемныя падзеі і мілыя знаёмствы.

**(22.05. — 22.06.)** Будзеш усё рабіць з аптымізмам і падыходзіць да кожнай справы творча. Час пазітыўны ва ўсіх адносінах. Можаш сам выбраць, куды накіроўваць сваю энергію. Атрымаецца мірна вырашыць нават самую напружаную сітуацыю. У жніўні лёс рыхтуе Блізнятам нямала прыемных сюрпрызаў. З'явіцца выдатны шанц пачаць новы этап жыцця, пакінуўшы ўсе няўдачы ў мінулым.

**(23.06. — 23.07.)** Час вельмі эмацыйны. Не выключана, што лёс зноў запрапануе прайсці нейкія ўрокі. Асабліва важнае будзе меркаванне навакольных, як ты выглядаеш у іх вачах. У некаторых сферах жыцця будзеш адчуваць сябе кіраваным. І гэта не так ужо і дрэнна, проста знайдзі людзей, чые погляды і прынцыпы сугучныя тваім.

**(24.07. — 23.08.)** Захочацца табе зрабіць яркае ўражанне на навакольных і падзяліцца сваім радасным настроем. Будзеш заражаць сваіх сяброў і знаёмых асабістым прыкладам, выяўляючы самастойнасць і крэатыўнасць. Прадумай планы на бліжэйшы год. Львы зараз з'яўляюцца кавалямі ўласнага шчасця.

**(24.08. — 23.09.)** Будзеш чароўны і прывабны. Пры дапамозе сваіх знешніх дадзеных лёгка здолееш вырашыць любыя праблемы. Удалыя пачынанні ў галіне мастацтва. Поспех чакае і на літаратурнай ніве, добрыя перспектывы абяцаюць перамовы, выступленні, грамадская праца. Абмен цікавымі думкамі і ідэямі. На працы прыйдзецца табе скарыстацца сваім аўтарытэтам.

**(24.09. — 23.10.)** З'явіцца магчымасць увасобіць у жыццё самыя смелыя творчыя задумы. Можаш паспрабаваць свае сілы ў некалькіх кірунках. Станоўчыя вынікі ў прафесійнай сферы. Новыя карысныя знаёмствы. Падумай аб атрыманні другой адукацыі, можа хопіць наведаць навучальныя курсы.

**(24.10. — 22.11.)** Спатрэбіцца вялікая самааддача. Будзеш на ўздыме сваіх сіл, аднак дамагчыся поспеху будзе складана. Неабходна мабілізаваць усе свае творчыя здольнасці, з'явіцца ўнікальны шанц увасобіць у жыццё свае даўнія мары. У тваім жыцці зноў спатрэбяцца людзі, здольныя сур'ёзна паўплываць на твой лёс.

**(23.11. — 22.12.)** Час шчодры на прыемныя перажыванні і рамантычныя сустрэчы. Зоркі перасцерагаюць цябе ад падвохаў з боку блізкага акружэння. Ёсць небяспека, што ўяўныя сябры кінуць цябе ў самы складаны момант. Не нервуйся на дробязі, не ўвязвайся ў звады і калатнечы. Поспех у фінансавых пытаннях.

**(23.12. — 20.01.)** Акунешся ў свет успамінаў. Магчыма, сустрэнеш каго-небудзь са старых знаёмых ці ў жыцці паўторацца нейкія падзеі з мінулага. Важныя справы і працяглыя камандзіроўкі лепш пакуль не планаваць. Варта быць вельмі ўважлівым на дарозе.

**(21.01. — 19.02.)** У жніўні зоркі раяць Вадалеям пачаць увасабляць у жыццё сваю даўнюю мару. Але рэалізоўваць новыя планы варта, паралельна завяршаючы старыя. Жнівень у цэлым мае быць даволі напружаным, нярэдка прыйдзецца канфліктаваць з навакольнымі, адстойваючы свае інтарэсы. Няпроста будзе сумясціць асабістае і грамадскае. Не выключана, што прыйдзецца табе зрабіць вельмі важны выбар у сваім жыцці.

**(20.02. — 21.03.)** Прыйдзецца праявіць працавітасць, каб чагосьці дамагчыся. Але старанні акупяцца, і жнівень будзе даволі ўдалым і пазітыўным. Прааналізуй свае памылкі, зрабі адпаведныя высновы. Пазней трэба будзе пазмагацца за сваё месца пад сонцам. Не выключаны некаторыя непрыемныя падзеі ў тваім жыцці, аднак здолееш выйсці з іх пераможцам.

Агата АРЛЯНСКАЯ

# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. далёкі прастор, прасцяг = 13 _ 12 _ 6 _ 11 _;
2. вадкая частка стравы = 8 _ 9 _ 3 _ 2 _;
3. ядомы пласціністы грыб з рыжай шапачкай = 20 _ 21 _ 22 _ 23 _ 1 _;
4. старажытны шумерскі горад на Еўфраце = 14 _ 15 _;
5. галоўная нацыя Кітая = 5 _ 16 _ 17 _ 18 _;
6. звышнатуральнае, неверагоднае здарэнне = 10 _ 4 _ 19 _;
7. старaславянская літара „е” (у слове „пяць”) = 7 _ 24 _ 25 _.

(ш)

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 28 нумара**

Протаіерэй, печ, Вануату, Хеопс, сена, удзел, том, начлежнік, пай, догма, авечка.
Рашэнне: **Хто сумленне мае, той чужога не чапае**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.


Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# У палескай глыбінцы (49)





На Пятра і Паўла я нечакана трапіла ў вір народных гульбішчаў і спеваў. Пра свой пышны досвед найлепш сказаць словамі народнай прыказкі: *не думалі жыць багата, а прыйшлося!*

Усё дзякуючы добрым людзям.

Раніца ў Камені-Кашырсім здалася сцішанай, святочнай. Я стаяла на прыпынку з пачуццём паразы. Маршрутка ў Любашы адправілася без мяне гадзіну раней. Усё з-за тэхнічных фокусаў. Карацей кажучы, мой лоб не паспеў яшчэ пераключыцца на палескую рэчаіснасць. Ды і гадзіннік усё яшчэ паказваў польскі час. Я ўзіралася ў калюгі, якія быццам мініяцюрныя азёры блішчэлі па цэнтральнай вуліцы мястэчка і нервова гадала: «Што рабіць? Дзе падзецца?». Нягледзячы на ранні час, у паветры стаяла афрыканская жара. У такой спякоце кожны новы план здаваўся залішнім. Яшчэ больш рызыкоўна было адпраўляцца ў дарогу пасля поўдня. Ніхто з жыхароў Каменя не ўмеў падказаць, чаго можна спадзявацца ў суседнім раёне.

— Я там не быў! — гучаў звычайны адказ.

Чарговы раз мяне спасцігла знаёмая песня. Поўнач не існавала ў галаве ўкраінцаў. Гэты закутак ахінала нейкая аўра ізаляванасці. Вось у палескім Камені іх суседні раён Любашы здаваўся больш адлеглым і экзатычным, чым сталічны Кіеў. Я таксама ведала, што ў нязведаны бок найлепш адпраўляцца з самай раніцы. Рад-няволя трэба было прызямліцца, пачакаць да наступнага ранку...

Спачатку, каб падняць настрой, я схадзіла на рынак палюбавацца балотна-ляснымі таварамі, якімі гандлююць вяскоўцы. На месцы ўжо выседжвалі цёткі-туземкі з чарніцамі і ляснымі малінамі. Сёння кілаграм чарніц каштаваў толькі 18 грыўняў (1$ = 24 грыўням). Але яны не сыходзілі, выглядала так, быццам чарніцы даўно праеліся мясцовым. Сярод садавіны найбольш пажаданым таварам былі мініяцюрныя марэлі і дзікія вішні. Іх набывалі не па кілаграмах, а вёдрамі. Садавіну і ягады перараблялі на сочыва і кампоты, каб неяк пераадолець зімовы час. Але не гэта падбіла маё сэрца...

* * *

Між прылаўкамі я прыкмеціла латок з лакальнай прэсай. Свежы чорна-белы нумар «Полісся», які налічваў чатыры старонкі, каштаваў толькі 2 грыўні (прыблізна 30 польскіх грошаў), а тыраж выдання быў пазначаны на 11 424 экземпляры. На першай старонцы пісалі пра ўшанаванне памяці ахвяр Першай сусветнай вайны ў сяле Новае Чэрвішча. Тут жа адзначаўся юбілей вясковага калектыву «Прыданкі» з Гуты-Баравенскай, на старонцы віднелі яшчэ юбілейныя пажаданні бацюшку Уладзіміру са Свята-Мікалаеўскай царквы ды дзелавітая рэклама *«куплю коней, кароў, бычкоў, усё за добрыя грошы»*

Пасля, калі я пытала пра газету, усе мінакі ў горадзе ведалі як падказаць дарогу ў рэдакцыю. Здаецца, невыпадкова.

Трэцюю частку ўсяго зместу «Полісся» займалі прыватныя вітанні з нагоды сямейных святаў — імянінаў, дзён нараджэння, шлюбаў, заручынаў. Разам са здымкамі юбіляраў змяшчаліся вершаваныя радкі, тэмпература якіх не адставала ад сённяшняй афрыканскай жары. Напрыклад, спадарыня Вера Антонаўна Д. атрымала такую кветку: *«Сёння Дзень народзінаў святкуе прыгожая, чароўная жанчына, добрая гаспадыня, ахоўніца дамовага ачага, любімая жонка, чуллівая мама, лагодная бабуля.*

*Дзякуем Вам, мамо, дзякуем Вам бабуля: за шчырасць бязмежную і гарачую любоў, за Вашы рукі працавітыя, за Вашы мудрыя навукі, якія асвятлялі дарогу жыцця, за тое, што ў час радасці і ў час цярпення мы заўсёды можам звярнуцца да Вас за парадай. Пакуль Вы разам з намі ў хаце, мы ўсе вясёлыя і багатыя. Жадаем Вам шмат гадоў у здароўі пражыцці і на стагоддзе Вашае мёд і гарэлку разам піці. (Пажаданні даслалі муж, сын, сынавая, унукі).*

Вясковы кавалер Алег Мікалаевіч Ю. у свае 18 год атрымаў, пажаданні ад нарачонай: *«Хай жыццёвы шлях сцелецца як вышыты ручнік, хай святло пуцяводнай зоркі асвятляе Тваю долю, хай квітнеюць Твае маладыя гады васількамі ў полі, хай каліновай прыгожасцю праменіцца Твая ўсмешка, хай здзейсняцца тысячы Тваіх пажаданняў, хай лёс падае толькі шчасце, каб не было ні грама бяды, ні каплі цярпення. Будзь заўсёды, мой мілы, мой родны такі прыгожы і малады! Шчыры і добры! Заўсёды каханы і заўсёды адзіны»*.

* * *

У канцылярыі рэдакцыі «Полісся» сустрэў мяне стройны хлопец за камп'ютарам:

— Вы хочаце змясціць у нас рэкламу? — спытаў.

— Пажаданні, з нагоды юбілею, — пачала я. — Ці трэба самому напісаць змест пажаданняў?

— Неабавязкова!

— Вы самі пішаце такія прыгожыя рэчы?

— Ха-ха! Такая праца...

Папраўдзе самай гарачай тэмай апошніх дзён была прамоцыя кандыдатаў у народныя дэпутаты Украіны ад выбарчай акругі № 23. Дадатковыя выбары атрымаліся ў выніку няшчасця:

— Наш дэпутат упаў з каня і забіўся, — пачула я словы паяснення.

Зараз з акругі № 23, куды прыналежыць і Камень-Кашырскі, балатавалася ажно 19 кандыдатаў. Паводле перадвыбарчых апытанняў у выбарах, што мелі адбыцца ў бліжэйшую нядзелю, найбольшыя шанцы былі ў кандыдаткі ад групоўкі УКРОП (Украінскай партыі патрыётаў), філолаг Ірыны Канстанкевіч. На выбарчых плакатах яна выступала ў вышыванцы.

— А мяне найбольш цікавіць культура Палесся, — пачала я.

— Калектывы? — падхапіў малады рэдактар.

— Ну, хутчэй пісьменнікі, творцы, якія ў вас мерапрыемствы...

— Вам трэба сустрэцца з Кандрацьевай з Раённага дома культуры, — параіў хлопец. — Яна вам раскажа ўсё пра калектывы...

Хоць у мяне не было вялікай цікавасці да культуры, якую атаясамляюць з працай вясковых самадзейнікаў, надта спадабалася прозвішча спадарыні дырэктар. Кіраўнік Раённага аддзела культуры папраўдзе называлася Яўгенія Кандрацьеўна Сідарчук. Яна якраз пабывала ў сяле Нуйно, дзе адбываўся з'езд кіраўнікоў сельсаветаў. Мы пазнаёміліся па тэлефоне, нумар якога набрала прыбіральшчыца дома культуры. Жанчына адрэкамендавала мяне словамі:

— Вас шукае надта важная асоба з Польшчы!

У доказ маёй «важнасці» прыбіральшчыца дадала такое: «Гэтая пані разумее па-ўкраінску. Да, нават умее гаварыць!». Я ўзяла трубку ды прадставілася.

— Найлепш будзе, як пабачыце сваімі вачыма, — адзначыла Яўгенія Кандрацьеўна, — прыязджайце да нас у госці.

Праз дзесяць хвілін я імчала на службовай машыне ў сяло Нуйно.

Там па спецыяльным жаданні жанчыны з калектыву «Бэрэгиня» праспяваюць мне «ягадныя» песні. Адна іх гучыць надта знаёма.

* * *

Ой давно-давно
В родоньку була,
Вжэ ж та стэжэчка
Дэрном заросла.
Ой нэ так дэрном,
Як тэрныцэю.
Давно бачылась
Із сэстрыцэю.
Ой нэ так дэрном,
Як тэрныною.
Давно бачылась
Із родыною.
Ой як я схочу,
Тэрэво ссічу.
До родыноньки
Орлом полэчу.
Ой нэ так орлом,
Як зозулькою.
В вышнэвім саду
Коваті буду.

(працяг будзе)

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960